Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
### БЕЛАРУСКАЕ ССР

20 ЧЭРВЕНЯ 1927 г.

№ 11 (36)

3-ці год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ СНК БССР
МЕНСК—1927 г.

# ЗЬМЕСТ.

## Частка афіцыйная.

Стар.



## Частка неафіцыйная.

## 1. Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР

АБ УМОВАХ ПРАЦЫ ХАТНІХ РАБОТНІЦ І РАБОТНІКАЎ, ВЫКОНВАЮЧЫХ РАБОТЫ АСАБОВАГА АБСЛУГОЎВАНЬНЯ НАЙМАЛЬНІКАЎ І ЯГО СЯМ'І *).

На зьмену і дапаўненьне існуючага законадаўства аб працы, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляюць:

1. Хатнія работніцы і работнікі, пражываючыя ў наймальнікаў, ці прыходзячыя, прымаюцца на работу наймальнікам або праз біржы працы, або беспасрэдна па згодзе з наймаючымися.

2. Да канчатковага прыняцьця на работу хатняя работніца або работнік могуць лічыцца на двухтыднёвай спробе.

3. Наймальнік пры найманьні хатняе работніцы або работніка мае права патрабаваць пасьведчаньне аб стане іх здароўя, а таксама пэрыядычнага агляду іх здароўя.

*Увага.* Пэрыядычны агляд робіцца ў рабочы час органам Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя.

4. Наймальнік павінен не пазьней як праз сем дзён ад часу канчатковага прыняцьця на работу хатняе работніцы або работніка выдаць ім разьліковую кніжку па форме, устаноўленай Народным Камісарыятам Працы.

Па згодзе наймальніка з наняўшымся, апроч выдачы разьліковае кніжкі, паміж імі можа быць дадаткова заключаны пісьмовы працоўны дагавор.

Працоўны дагавор ад імя хатняе работніцы або работніка можа па іх даручэньні заключацца і падпісвацца прафэсіянальным саюзам.

Разьліковыя кніжкі і пісьмовыя працоўныя дагаворы не рэгіструюцца.

*Увага.* Калі хатняя работніца або работнік наймаюцца на работу менш як на адзін месяц, то разьліковую кніжку выдаваць не абавязкова.

5. Разьліковыя кніжкі запаўняюцца наймальнікам у двух экзэмплярах, з якіх адзін захоўваецца ў наймальніка, а другі ў хатняе работніцы або работніка.

У абодвых экзэмплярах разьліковае кніжкі наймальнік адзначае аб зробленых разьліках.

Калі заключаецца працоўны дагавор, то ён таксама складаецца ў двух экзэмплярах, з якіх адзін выдаецца хатняй работніцы або работніку.

---

*) Апублікавана ў газэце „Савецкая Беларусь“ за 9 чэрвеня 1927 г. № 128 (2020).

6. Асобы, ня маючыя 16 год, ня могуць быць наняты ў якасьці хатніх работніц або работнікаў. У выключных выпадках, са згоды бацькоў або апякуна і інспэктара працы, могуць наймацца недалетнія, не маладзей 14 год.

7. У разьліковай кніжцы павінны быць зазначаны: а) асноўныя работы, на якія наняты хатняя работніца або работнік, а таксама лік членаў сям'і наймальніка, якія абслугоўваюцца хатняю работніцаю або работнікам; б) тэрмін найму; в) даўжыня і разьмеркаваньне рабочага часу; г) разьмер, формы і тэрміны выплаты заработнае платы і д) дадатковыя ўмовы, устаноўленыя па згодзе старон.

У разьліковай кніжцы таксама паказваецца ацэнка натуральнае часткі платы, калі яна абумоўлена пры найманьні.

8. Наймальнік павінен выконваць усе прынятыя ім на сябе абавязкі: плаціць сваячасна заработную плату, не парушаць умоў аб даўжыні рабочага дню, даваць работніцы або работніку, калі гэта абумоўлена згодаю, належнае памяшканьне для жыльля, яду і г. д.

9. Хатняя работніца або работнік павінны старанна і сумленна выконваць прынятыя на сябе абавязкі, берагчы даручаную ім маемасьць наймальніка і выконваць усе вымаганьні наймальніка, вынікаючыя з умоў найму.

10. Рабочы дзень хатняе работніцы або работніка можа быць падзелены на некалькі частак. Вольны ад службы час хатняя работніца або работнік можа скарыстоўваць па свайму пагляду.

*Увага 1.* Для прыходзячых хатніх работніц або работнікаў можа быць устаноўлена ня больш двух перарываў на працягу рабочага дня.

*Увага 2.* Няпісьменныя хатнія работніцы або работнікі павінны мець магчымасьць хадзіць у школы ліквідацыі няпісьменнасьці.

11. Калі наймаюцца хатнія работніцы або работнікі спэцыяльна для дагляданьня дзяцей або хворых (нянькі, сядзелкі), для іх можа быць абумоўлена начная работа. У начны час не дазваляецца працаваць асобам ня маючым 16 год, а таксама цяжарным работніцам, пачынаючы з 7-га месяца цяжарнасьці.

11. Калі хатняя рябботніца або работнік па характару сваіх абавязкаў працуюць больш як 192 рабочыя гадзіны на месяц (арт. 94 Кодэксу Законаў аб Працы), то яны атрымоўваюць дадатковую аплату. Гэтая дадатковая аплата, як і аплата за начную работу (арт. 11), уключаецца ў агульную суму заработнае платы, што ўстанаўляецца пры найме.

*Увага.* Забараняецца аплата працы хатніх работніц або работнікаў выключна ў натуральнай форме (жылое памяшканьне, адзежа, яда і г. д.).

13. Хатнім работніцам або работнікам даецца адзін раз на тыдзень выхадны дзень, пры гэтым самы дзень устанаўляецца па згодзе паміж наймальнікам і работніцаю або работнікам.

*Увага.* Калі хатняй работніцы або работніку па ўмовах найму выпадае працаваць у вячэрнія гадзіны, то наймальнік павінен звальняць яго для грамадзкае работы на працягу ня больш 1-га вечара, апроч выхаднога дня, прадугледжанага гэтым артыкулам, у дні і гадзіны па згодзе старон.

14. Хатнія работніцы або работнікі звальняюцца ад работы ў дні рэвалюцыйных сьвят і ў асобныя дні адпачынку, якія ўстанаў-

ляюцца Народным Камісарыятам Працы і Цэнтральнаю Радаю Прафэсіянальных Саюзаў Беларусі.

*Увага.* Калі немагчыма звольніць ад работы хатнюю работніцу або работніка ў які-небудзь з зазначаных у гэтым артыкуле дзён, то ім павінен быць дадзены другі дзень па згодзе, або за гэта павінна быць заплачана грашмі ва ўстаноўленым згодаю разьмеры.

Аднак, калі сьвята цягнецца 2 дні, то хатняя работніца або работнік павінны быць, у кожным разе, звольнены ад работы на адзін дзень.

15. Працоўны дагавор з хатняю работніцаю або работнікам можа быць скасаваны ў кожны час, калі гэтага захоча адна з старон, за выключэньнем выпадку, прадугледжанага артыкулам 16 гэтае пастановы.

Пры звальненьні хатняе работніцы або работніка наймальнік павінен альбо заплаціць звальняемаму выхадную дапамогу ў разьмеры двухтыднёвага заработку, альбо папярэдзіць за два тыдні аб звальненьні.

Наймальнік можа не папераджаць аб звальненьні або не плаціць выхадное дапамогі пры звальненьні хатняе работніцы або работніка ў наступных выпадках: а) калі скончыцца тэрмін працоўнага дагавору аб найманьні; б) калі хатняя работніца або работнік сыстэматычна ня выконваюць прынятых на сябе абавязкаў; в) калі хатняя работніца або работнік арыштаваны больш як на 5 дзён, або зрабілі злачынства, устаноўленае набыўшым законную сілу судовым прысудам; г) калі працоўны дагавор скасаваны па жаданьні работніцы альбо работніка альбо па вымаганьні прафэсіянальнага саюзу; д) калі выяўлены ў пэрыяд спробы (два тыдні) няздатнасьць работніцы або работніка да работы; е) калі страчана будзе працаздольнасьць больш, як на адзін месяц.

*Увага.* Папярэджаныя аб звальненьні хатняя работніца або работнік маюць права кідаць штодзень работу на дзьве гадзіны для падшуканьня работы.

16. Забараняецца звальняць хатніх работніц або работнікаў на працягу месяца ад таго дня, з якога яны страцілі сваю працаздольнасьць.

*Увага.* Працоўны дагавор з прыходзячымі хатнімі работніцамі або работнікамі, калі яны часова страцяць працаздольнасьць, касуецца ў адпаведнасьці з п. „ж“ арт. 47 і арт. 92 Кодэксу Законаў аб Працы.

17. Зволненыя хатняя работніца або работнік могуць на працягу двух тыдняў пасьля звальненьня жыць у памяшканьні, якое яны займалі ў наймальніка. Пасьля гэтага тэрміну яны павінны апаражніць памяшканьне.

18. Хатнія работніцы ў стане цяжарнасьці або пасьля родаў прымаюцца ў дом мацеры і дзіцяці, а захварэўшыя хатнія работніцы або работнікі ў больніцы ў абавязковым парадку. Гэты парадак устанаўляецца інструкцыяю, якая выдаецца Народным Камісарыятам Аховы Здароўя па згодзе з Народным Камісарыятам Працы БССР і Цэнтральнаю Радаю Прафэсіянальных Саюзаў Беларусі.

*Увага.* Прыходзячыя хатнія работніцы або работнікі прымаюцца ва ўстановы Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя на агульных падставах.

19. Калі наймальнік перамяняе месца свайго пражываньня і з ім пераяжджае хатняя работніца або работнік, то наймальнік павінен узяць на свой кошт усе выдаткі, зьвязаныя з пераездам.

20. Спэцыяльная вопратка выдаецца хатнім работніцам або работнікам паводле дагавору найму, але ня менш нормы, устаноўленай Народным Камісарыятам Працы. Аб выдачы спэцыяльнае вопраткі наймальнік адзначае ў разьліковых кніжках.

21. Хатнія работніцы або работнікі павінны быць застрахованы ў органах сацыяльнага страхаваньня ў парадку, устаноўленым пастановаю Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР за 25 верасьня 1925 г. „Аб сацыяльнай страхоўцы асоб, занятых па найму ў хатняй гаспадарцы“ (З. З. СССР 1925 г. № 66, арт. 491).

22. Канфлікты паміж наймальнікамі і хатняю работніцаю або работнікам вырашаюцца альбо ў пасрэдніцка-міравым альбо ў судовым парадку (у працоўных сэсіях або ў агульных судовых установах).

23. Ня маюць сілы тыя згоды, якія пагаршаюць умовы працы хатніх работніц або работнікаў, у параўнаньні з умовамі, устаноўленымі гэтаю пастановаю, а таксама з законадаўствам аб працы ў частцы, што пашыраецца на хатніх работніц або работнікаў.

24. З увядзеньнем у дзейнасьць гэтае пастановы на хатніх работніц або работнікаў не пашыраюцца арт. арт. 29, 44, 47, 48, 56, 60, 61, 64, 70, 76, 82, 83, 87, 90, 92, 113, 131, 168—174 Кодэксу Законаў аб Працы.

*Увага.* На прыходзячых хатніх работніц або работнікаў пашыраюцца п. „ж“ арт. 47 і арт. 92 Кодэксу Законаў аб Працы.

25. Правілы гэтае пастановы не пашыраюцца на хатніх работніц або работнікаў, працуючых па найму ў сялянскай гаспадарцы, умовы працы якіх вызначаюцца часовымі правіламі „Аб умовах ужываньня дапаможнае наймовае працы ў сялянскіх гаспадарках“ (З. З. СССР 1925 г. № 26, арт. 183) і інструкцыяю Савету Народных Камісараў БССР за 12 жніўня 1925 г. (З. З. БССР 1925 г. № 42, арт. 351).

26. З выданьнем гэтае пастановы трацяць сілу ўсе абавязковыя пастановы акруговых выканаўчых камітэтаў і Народнага Камісарыяту Працы аб умовах працы хатніх работніц або работнікаў.

27. Нагляданьне за выкананьнем гэтае пастановы ўскладаецца на органы Народнага Камісарыяту Працы БССР.

28. Унесьці гэтую пастанову на канчатковае зацьверджаньне бліжэйшае сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў**.

Старшыня Савету Народных
Камісараў БССР **Яз. Адамовіч.**

Сэкратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Хацкевіч.**

14 мая 1927 г.
г. Менск.

## 2. Пастанова Цэнтральнага Выканаўчата Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР

ПРА ЗАЦЬВЕРДЖАНЬНЕ ПРАВІЛ АБ ВУЧНЁЎСТВЕ Ў САМАТУЖНІКАЎ, РАМЕСЬНІКАЎ, У ПРАМЫСЛОВАЙ КААПЭРАЦЫІ І ПРАЦОЎНЫХ АРЦЕЛЯХ *).

Для выкананьня пастановы ЦВК і СНК СССР за 15 кастрычніка 1926 г. „Аб асноўных палажэньнях аб вучнёўстве ў саматужнікаў, рамесьнікаў, у прамысловай каапэрацыі і працоўных арцелях“ (З. З. СССР 1926 г., № 71, арт. 543), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляюць: зацьвердзіць наступныя правілы аб вучнёўстве ў саматужнікаў, рамесьнікаў, у прамысловай каапэрацыі і працоўных арцелях:

1. Гэтыя правілы пашыраюцца:

а) на вучняў тых саматужнікаў і рамесьнікаў, якія працуюць толькі самі альбо з дапамогаю ня больш двух наёмных рабочых, калі гэтыя вучні не зьяўляюцца членамі сям'і альбо не знаходзяцца на ўтрыманьні даннага саматужніка ці рамесьніка і не належаць да таго сялянскага двара, да якога належаць саматужнік або рамесьнік;

б) на вучняў у прамысловай каапэрацыі, а таксама ў працоўных арцелях, калі вучні не зьяўляюцца членамі даннае арцелі або каапэрацыйнага таварыства.

*Увага.* Гэтыя правілы ўжываюцца і тады, калі ў саматужніка, рамесьніка, у прамысловай каапэрацыі або ў працоўнай арцелі ёсьць спэцыяльна абсталяванае памяшканьне і мэханічны рухавік.

2. Вучнямі могуць быць паводле агульнага правіла толькі асобы, якія дасягнулі 14 год; аднак, у сельскіх мясцовасьцях і мястэчках могуць прымацца ў навучаньне і асобы 13 год з тою ўмоваю, каб да дасягненьня імі 14 год яны бралі ўдзел толькі ў больш лёгкай працы. Тэрмін вучнёўства па кожнай паасобнай прафэсіі ня можа быць больш за 4 гады. Навучаньне ва ўсякім разе павінна быць скончана не пазьней дасягненьня вучнем 20 год.

3. Вучні прымаюцца ў навучаньне па пісьмоваму дагавору саматужніка, рамесьніка, прамысловае каапэрацыі або працоўнае арцелі з вучнем або з асобамі і арганізацыямі, якія са згоды вучня выступаюць ад яго імя.

*Увага.* Пісьмовы дагавор павінен быць зроблен не пазьней як праз месяц ад дня прыняцьця вучня на работу.

4. У дагаворы павінна быць паказана:

а) прафэсія, якой павінны навучаць вучня;

б) тэрмін навучаньня;

в) разьмеркаваньне рабочага часу і адпачынку;

г) разьмер, віды, тэрмін і парадак выдачы платы;

д) дзень штотыднёвага адпачынку.

*Увага.* На вучняў пашыраюцца арт. арт. 111 і 112 Кодэксу Законаў аб Працы.

е) парадак разьмеркаваньня і працяжнасьць водпуску;

ж) іншыя ўмовы, якія могуць быць запісаны ў дагавор на карысьць вучняў.

---

*) Апублікавана ў газэце „Савецкая Беларусь“ за 8-е чэрвеня 1927 году № 127 [2019].

5. Умовы, якія пагаршаюць становішча вучня ў параўнаньні з гэтымі правіламі, ня маюць сілы.

6. У тыднёвы тэрмін па заключэньні дагавору копія яго павінна быць накіравана: у гарадох—інспэктару працы, у сельскіх мясцовасьцях і мястэчках—сельскаму або местачковаму савету.

7. Калі інспэктар працы, або сельскі ці местачковы савет знойдзе ў дагаворы ўмовы, якія пагаршаюць становішча вучня ў параўнаньні з гэтымі правіламі, то ён павінен не пазьней 2-х тыдняў ад дня атрыманьня дагавору запрапанаваць старанам зрабіць у дагаворы патрэбныя зьмены.

8. На працягу першага паўгодзьдзя навучаючы павінен даваць вучню харчы і памяшканьне або па згодзе старон, замест гэтага, грашовую плату, якая ня можа быць менш за 40 проц. устаноўленага для даннае мясцовасьці дзяржаўнага мінімуму заработнае платы.

Пачынаючы з другога паўгодзьдзя, вучань павінен атрымоўваць ня менш за 75 проц. устаноўленага для даннае мясцовасьці дзяржаўнага мінімуму заработнае платы ў натуральнай, грашовай альбо мяшанай форме.

З пачатку другога году навучаньня вучань павінен атрымоўваць заработную плату, якая пачынаецца з устаноўленага для гэтае мясцовасьці дзяржаўнага мінімуму заработнае платы, пры чым у гэтую грашовую плату залічваецца натуральная плата. Разам з гэтым у дагаворы павінна быць прадугледжана, што 25 проц. заработнае платы павінна выдавацца вучню грашыма і што разьмеры заработнае платы павінны павялічвацца ў залежнасьці ад прахаджэньня навучаньня.

9. Саматужнік, рамесьнік, прамысловая каапэрацыя або працоўная арцель маюць права звольніць вучня з папярэджаньнем за два тыдні і з выплатай выхадное дапамогі ў разьмеры яго памесячнага заработку ў выпадках: а) зачыненьня прадпрыемства, спыненьня або значнага скарачэньня вытворчасьці прадпрыемства; б) пасьведчанае ў парадку арт. 19 няздольнасьці вучня да навучаньня.

10. Саматужнік, рамесьнік, прамысловая каапэрацыя або працоўная арцель маюць права звольніць вучня без папярэджаньня і бяз выплаты выхадное дапамогі, калі вучань:

а) сыстэматычна ўхіляецца ад работы альбо ня выходзіць на работу бяз прычын, заслугоўваючых увагі, 3 дні падрад;

б) хварэе больш за 2 месяцы без перарыву альбо 4 месяцы на працягу году с перарывамі;

в) учыніць устаноўленае судом крымінальнае дзеяньне, або знаходзіцца ў ізаляцыі (карантын, папраўная ўстанова) на працягу больш 2-х месяцаў.

Вучань таксама можа быць звольнены ў выпадку доўгае (больш 2-х месяцаў) хваробы саматужніка альбо рамесьніка, калі з прычыны гэтае хваробы будзе зачынена альбо спынена прадпрыемства.

Дагавор можа быць парваны з прычыны сьмерці саматужніка або рамесьніка, калі яна выклікае зачыненьне альбо спыненьне прадпрыемства.

11. Вучань мае права пакінуць работу з атрыманьнем выхадное дапамогі ў выпадку сыстэматычнага парушэньня саматужнікам, рамесьнікам, прамысловай каапэрацыяй або працоўнай арцельлю ўстаноўленых у дагаворы абавязнасьцяй, а таксама у выпадку, калі саматужнік, рамесьнік, прамысловая каапэрацыя або працоўная арцель дапушчае такое пагоршаньне ўмоў працы, якое пагражае жыцьцю альбо здароўю вучня.

Права на кампэнсацыю вучань мае таксама ў выпадку парваньня дагавору з прычыны грубога абыходжаньня з ім навучаючага.

12. Калі, згодна дагавору з вучнем, саматужнік, рамесьнік, прамысловая каапэрацыя або працоўная арцель абавязаліся выдаць вучню пасьля вызначанага тэрміну працы вопратку альбо абутак, а вучань звальняецца альбо адыходзіць да наступленьня гэтага тэрміну,—то яму выдаецца часьць устаноўленага дагаворам кошту вопраткі і абутку ў залежнасьці ад часу, які ён працаваў.

13. Саматужнік, рамесьнік, прамысловая каапэрацыя або працоўная арцель ня маюць права даваць вучню работу, ня зьвязаную з навучаньнем.

Дазваляецца частковае скарыстаньне вучня для куплі матар'ялаў, адсылкі вырабаў заказчыкам і інш. Калі саматужнік, рамесьнік, прамысловая каапэрацыя або працоўная арцель, апроч свайго промыслу, займаюцца сельскай гаспадаркай, то яны могуць прыцягваць вучня ў сэзонны час да палявых работ, ня больш як на тры месяцы з тым, каб гэта не адбівалася дрэнна на ходзе навучаньня.

14. Саматужнік, рамесьнік, прамысловая каапэрацыя, або працоўная арцель павінны бясплатна даваць вучню патрэбныя для працы начыньне і снасьці.

15. Рабочы дзень вучня не павінен перавышаць: у сельскіх мясцовасьцях і мястэчках для вучняў, маладзей 16 год, 6 гадзін, а для вучняў 16 год і старэйшых—8 гадзін; у гарадох для вучняў, маладзей 18 год—6 гадзін, а для вучняў 18 год і старэйшых—8 гадзін.

16. Кожнаму вучню штогод павінен давацца, з захаваньнем устаноўленага дагаворам заработку, водпуск ня менш як на адзін месяц.

*Увага.* Пры звальненьні вучня раней тэрміну, які дае права на водпуск, яму павінна давацца кампэнсацыя ў разьмеры 1/24 (калі вучань мае права на двухтыднёвы водпуск) альбо 1/12 (калі вучань мае права на месячны водпуск) месячнага заработку за кожны месяц, які ён працаваў.

17. Саматужнік, рамесьнік, прамысловая каапэрацыя, або працоўная арцель ня маюць права перашкаджаць вучню ўдзельнічаць у рабочы час у выбарах у саветы, быць дэлегатам на зьездах і канфэрэнцыях прафэсіянальных саюзаў, ЛКСМ і каапэрацыі.

18. Сацыяльнае страхаваньне вучняў зьяўляецца абавязковым, апроч вучняў, якія навучаюцца ў сельскіх мясцовасьцях, і вучняў, якія не атрымоўваюць іншае платы, апроч харчоў і памяшканьня.

*Увагі.* Вучні местачковых саматужнікаў і рамесьнікаў страхуюцца па льготным тарыфе.

19. Спрэчкі паміж навучаючымі і вучнямі павінны вырашацца ў судзе альбо ў міравых камісіях, якія арганізуюцца ў гарадох—пры мясцовых органах Народнага Камісарыяту Працы, і ў сельскіх мясцовасьцях і мястэчках—пры сельскіх і мэстачковых саветах.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Старшыня Савету Народных
Камісараў БССР **Яз. Адамовіч.**

Сэкратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Хацкевіч.**

21 мая 1927 г.
г. Менск.

## 3. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ АПЛАЦЕ ГЭРБАВЫМ ЗБОРАМ АБАВЯЗНАСЬЦЯЙ ГРАМАДЗЯН НА ІМЯ НК ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ АБ ДАЗВОЛЕ ЎЕЗДУ З-ЗА ГРАНІЦЫ БССР ІХ КРОЎНЫМ.

*Акруговым Судом і Натарыяльным Канторам.*

Народны Камісарыят Юстыцыі БССР растлумачвае натарыяльным канторам, што абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР за 12 студзеня 1927 г. № 4 мае адваротную сілу.

На падставе гэтага трэба спыніць патрабаваньне зьвестак ад кожнай асобы па ўсіх тых абавязнасьцях, якія былі засьведчаны канторамі да 12 студзеня 1927 году.

Народны Камісар Юстыцыі БССР **М. Сегаль**.

Член Калегіі Н. К. Юстыцыі і Загадчык
Аддзелу Судоўніцтва і Нагляду **С. Эднэрал.**

26 сакавіка 1927 г.
№ 31.

---

## 4. Правілы аб парадку скарыстаньня і аховы існуючых чалавечых могілак, выдадзеныя Н. К. Земляробства і Н. К. Унутраных Спраў БССР.

Для ўрэгуляваньня пытаньня аб скарыстаньні зямель, якія заняты чалавечымі могілкамі, для іншых патрэб, аховы гэтых месц і распараджэньня імі Народны Камісарыят Земляробства і Народны Камісарыят Унутраных Спраў, на разьвіцьцё арт. арт. 136 і 138 Зямельнага Кодэксу, па згодзе з Народным Камісарыятам Асьветы і Народным Камісарыятам Аховы Здароўя БССР выдаюць наступныя правілы:

1. Тыя землі ў сельскіх мясцовасьцях, якія заняты чалавечымі могілкамі, уваходзяць, паводле арт. 138 Зямельнага Кодэксу, у землі спэцыяльнага прызначэньня.

2. Чалавечыя могілкі ў сельскіх мясцовасьцях, мястэчках і гарадох дзеляцца на тры катэгорыі:
а) звычайныя могілкі,
б) магілы гістарычных асоб і
в) магільнікі і магільныя курганы старажытных пахаваньняў.

3. Звычайныя могілкі ў гарадох, мястэчках і сельскіх мясцовасьцях знаходзяцца пад ведамам адпаведных гарадзкіх, местачковых або сельскіх саветаў, на якія ўскладаецца агульны нагляд за іх упарадкаваньнем.

*Увага.* Могілкі могуць быць бясплатна аддадзены саветам для беспасрэднага скарыстаньня, паводле асобных дагавораў, асобным грамадам і групам насельніцтва.

4. Старыя могілкі ў сельскіх мясцовасьцях для скарыстаньня занятых імі зямель на іншыя патрэбы, могуць быць, пасьля 50-ці гадоў з часу апошняга на іх пахаваньня, пералічаны з складу зямель спэцыяльнага прызначэньня ў склад дзяржаўнай зямельнай маемасьці пастановамі акруговых зямельных аддзелаў па прапанове адпаведных раённых выканаўчых камітэтаў. Могілкі закрытыя акруговымі зямельнымі аддзеламі, могуць быць перададзены ў запасны зямельны фонд, калі такая перадача выклікаецца гаспадарчаю або тэхнічнаю мэтазгоднасьцю, напрыклад, калі вучастак укліньваецца ў сялянскія землі.

5. Скарыстаньне ў гарадох і мястэчках зямель, занятых старымі могілкамі, для іншых патрэб, пасьля 50-ці гадоў з часу апошняга пахаваньня на іх, можа быць дазволена пастановамі адпаведных гарадзкіх або местачковых саветаў.

6. Падлік магіл гістарычных асоб, магільнікаў і магільных курганоў старажытных пахаваньняў і складаньне сьпісаў гэтых месц, робяцца Камісіяю па ахове помнікаў мастацтва, старажытнасьці, быту і прыроды пры Інстытуце Белар. Культуры. Нагляд за непарушным становішчам памянутых у гэтым артыкуле месц пахаваньня ўскладаецца на раённыя выканаўчыя камітэты ў сельскіх мясцовасьцях, на гарадзкія і местачковыя саветы—у гарадох і мястэчках.

7. Без дазволу Інстытуту Беларускай Культуры забараняецца разворваць і раскопваць месцы, занятыя магіламі гістарычных асоб, магільнікамі і магільнымі курганамі старажытных пахаваньняў, хоцьбы і для гаспадарчага скарыстаньня гэтых месц.

Нам. Народнага Камісара Землярobства БССР **Я. Валодзька.**

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

28 мая 1927 г.
№ 26.

---

## 5. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

### АБ ЗАЦЬВЕРДЖАНЬНІ НАЗВЫ ТЭХНІКУМАЎ БССР.

Народны Камісарыят Асьветы пастанаўляе:

1. Устанавіць для ўсіх тэхнікумаў назвы „Дзяржаўны“ з паказаньнем месца знаходжаньня яго і спэцыяльнасьці. Для тэхнікумаў на мовах нацыянальных меншасьцяй да вышэйпаказанай назвы дадаваць паказаньне, на якой мове працуе (Віцебскі Дзяржаўны імя Эстэр Фрумкінай Пэдагагічны Тэхнікум з выкладаньнем на яўрэйскай мове). Сьпіс тэхнікумаў з новымі назвамі далучаецца.

2. Віцебскі Электра-Мэханічны Тэхнікум перайменаваць у Палітэхнікум, назваўшы: „Віцебскі Дзяржаўны Палітэхнікум“.

3. Пры зьмене тэхнікумамі штампаў і пячатак ужываць у апошніх назву паводле даданага да гэтай пастановы сьпісу.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **П. Валасевіч.**

Сэкратар Народнага Камісарыяту Асьветы БССР **Ю. Савіч.**

31 мая 1927 г.
№ 92.

---

Дадатак да пастановы НКА БССР
за 31 мая 1927 г. № 92.

### Сьпіс тэхнікумаў БССР з новымі назвамі іх паводле пастановы Народнага Камісарыяту Асьветы БССР за 31 мая 1927 г. № 92.

1. Менскі Дзяржаўны імя Ўсевалада Ігнатоўскага Пэдагагічны Тэхнікум.
2. Барысаўскі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум.

3. Віцебскі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум.
4. Магілёўскі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум.
5. Мсьціслаўскі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум.
6. Мазырскі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум.
7. Полацкі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум.
8. Рагачоўскі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум.
9. Аршанскі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум.
10. Гомельскі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум.
11. Менскі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум з выкладаньнем на яўрэйскай мове.
12. Віцебскі Дзяржаўны імя Эстэр Фрумкінай Пэдагагічны Тэхнікум з выкладаньнем на яўрэйскай мове.
13. Гомельскі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум з выкладаньнем на яўрэйскай мове.
14. Менскі Дзяржаўны імя Браніслава Весялоўскага Пэдагагічны Тэхнікум з выкладаньнем на польскай мове.
15. Менскі Дзяржаўны Гідра-Тэхнічны Тэхнікум.
16. Варанецкі Дзяржаўны Сельска-Гаспадарчы Тэхнікум.
17. Магілёўскі Дзяржаўны Земляўпарадчы Тэхнікум.
18. Полацкі Дзяржаўны Лясны Тэхнікум.
19. Васілевіцкі Дзяржаўны Лясны Тэхнікум.
20. Мар'іна-Горскі Дзяржаўны Садоўніча-Гародны Тэхнікум.
21. Красна-Бярэскі Дзяржаўны Агранамічна-Пэдагагічны Тэхнікум.
22. Магілёўскі Дзяржаўны Акушорскі Тэхнікум.
23. Магілёўскі Дзяржаўны Фармацэўтычны Тэхнікум.
24. Віцебскі Дзяржаўны Каапэрацыйны Тэхнікум.
25. Менскі Дзяржаўны Архітэктурна-Дарожна-Будаўнічы Тэхнікум.
26. Менскі Дзяржаўны Музычны Тэхнікум.
27. Віцебскі Дзяржаўны Мастацкі Тэхнікум.
28. Віцебскі Дзяржаўны Палітэхнікум.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **П. Валасевіч.**

Сэкратар Народнага Камісарыяту Асьветы БССР **Ю. Савіч.**

---

## 6. Абежнік Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў БССР

АБ ТЛУМАЧЭНЬНІ НЕКАТОРЫХ ПУНКТАЎ ПАСТАНОВЫ ЦВК і СНК СССР ЗА 14-е СТУДЗЕНЯ 1927 г. „АБ СЛУЖБОВЫХ КАМАНДЫРОЎКАХ У МЕЖАХ СССР".

*Народным Камісарыятам і Цэнтральным Установам БССР і Акруговым Выканаўчым Камітэтам.*

У сувязі з шэрагам запытаньняў аб парадку ажыцьцяўленьня некаторых пунктаў пастановы ЦВК і СНК СССР за 14-е студзеня 1927 г. „аб службовых камандыроўках у межах СССР" Фінансава-Кантрольнае Кіраўніцтва Н. К. Грашовых Спраў СССР запрапанавала да часу выданьня ва ўстаноўленым парадку адпаведнае інструкцыі да гэтага закону кіравацца наступнымі, узгодненымі з Н. К. Працы СССР, тлумачэньнямі тых пунктаў пастановы, якія, як гэта паказваюць запытаньні, найбольш часта выклікаюць сумненьні і супярэчныя тлумачэньні.

1. Пры вылічэньні камандыровачна-сутачных трэба грунтавацца на заработку, які атрыманы працаўніком за апошні перад каманды-

роўкаю скончаны месячны плацежны пэрыяд; пры паўмесячных разьліках трэба браць суму двух апошніх скончаных разьліковых паўмесячных пэрыядаў.

2. Аплата сутачных пры камандыроўках з ніжэйшага тарыфнага поясу ў вышэйшы па стаўцы вышэйшага поясу не дапушчаецца.

3. Устаноўленая п. 2 пастановы мінімальная норма сутачных у разьмеры 2 р. 50 к., як і ўсе іншыя вышэйшыя нормы, можа быць па згодзе старон зьніжана ў выпадках, паказаных п. 8, да 50%.

4. Выдаткі на хурманкі і на іншыя спосабы пераезду ў самым месцы камандыроўкі, якія зьяўляюцца асабістымі выдаткамі камандыраванага, асобна за кошт установы не аплачваюцца, бо гэтыя выдаткі залічаюцца, паводле п. 2 пастановы, у сутачныя; выняткамі зьяўляюцца тыя выпадкі, калі хурманка, трамвай, аўтабус і інш. замяняюць сабою чыгуначныя або водныя з месцам камандыроўкі зносіны, якія ў такім выпадку аплачваюцца працадаўцам, паводле п. 5 пастановы.

5. З камандыраванага зьнімаецца абавязак апраўдваць дакумэнтамі тыя выдаткі на найманьне памяшканьня, якія аплачваюцца яму ў парадку п. 4-га пастановы.

6. Вынятк з максімальных разьмераў выдаткаў на найманьне памяшканьняў для Масквы рабіцца ня могуць, з гэтае прычыны і для Масквы гэтыя выдаткі не павінны перавышаць агульнае максімальнае нормы, якая ўстаноўлена для сталіц усіх Саюзных Рэспублік, г. зн. 7 рублёў.

7. Выдаткі зьвязаныя з найманьнем памяшканьня, напрыклад, рэгістрацыя пасьведчаньня і г. д., аплачваюцца камандыраваным з камандыровачных сродкаў і дапамогі ўстановаю не павінны выдавацца.

8. Дазволы на аплату плацкарты і „за скорасьць“ даюцца адміністрацыяю, пры гэтым праезд у мяккім вагоне можа быць дазволены толькі тады, калі ён цягнецца больш адных сутак у адзін бок або адбываецца ноччу; дазвол на аплату „за скорасьць“, плацкарту і праезд у мяккіх вагонах, каб ня было ў далейшым непаразуменьняў, трэба даваць наперад, да выезду працаўніка ў камандыроўку.

9. Пад „фактычнымі выдаткамі“ на набыцьцё плацкарт і на даплату „за скорасьць“ трэба разумець намінальны кошт плацкарты і даплаты, а не якія-небудзь іншыя выдаткі, зьвязаныя з іх набыцьцём.

10. Прадугледжаныя п. п. 4, 5 і 8 пастановы згоды старон і дазволы адміністрацыі на асобныя выдаткі камандыраваным (плацкарты, праезд у мяккім вагоне і г. д.) трэба адзначаць у загадах аб камандыроўцы або, калі такія загады ў даннай установе не практыкуюцца, то ў рэзалюцыі аб камандыроўцы.

Народны Камісарыят Грашовых Спраў БССР, маючы на ўвазе тое, што гэтае тлумачэньне Фінансава-Кантрольнага Кіраўніцтва Н. К. Грашовых Спраў СССР узгоднена з Н. К. Працы СССР, просіць усе народныя камісарыяты і цэнтральныя ўстановы і акруговыя выканаўчыя камітэты кіравацца ім і падаць яго да кіраваньня сваім падпарадкаваным установам.

Нам. Народнага Камісара Грашовых Спраў БССР **В. Мікуліч**.

Нач. Фін-Кантрольнага Кіраўніцтва НКГС БССР **Матус**.

3 чэрвеня 1927 г.
№ 1162-2.

## 7. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ ПАВЯЛІЧЭНЬНІ ЛІКУ ЖАНЧЫН У ВЫТВОРЧАСЬЦІ І АБ ПАЛЕПШАНЬНІ Ў ЁЙ ЖАНОЧАЕ ПРАЦЫ.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе лічыць магчымым ужываць жаночую працу на наступных работах:

1) У папяровай вытворчасьці: на філігранных каландрах, на бабінных варштатах, філігранных ролах, перакатных варштатах, стапарэзках, самарэзках і ў шлюфарных аддзяленьнях.

2) У гарбарнай вытворчасьці: на абрабленьні, раскройцы, пасадцы, саюзцы і на фальцмашынах.

3) У шчацінная вытворчасьці—на ўсіх работах.

4) У абуткавай вытворчасьці—на ўсіх работах.

Для падрыхтоўкі работніц пералічаных кваліфікацый гарбарнай вытворчасьці трэба ў далейшым ўкампляктоўваць школы фабрычназаводзкага вучнёўства на 50 проц. дзяўчатамі.

У такім самым разьмеры (50 проц.) трэба папаўняць і групавое (брыгаднае) вучнёўства ў шчацiннай і абуткавай вытворчасьцях.

5) У мэтальапрацоўчай прамысловасьці — у сьлясарным, такарным і электрамантажным цэхах. Лік жанчын у мэтальапрацоўчай прамысловасьці павінен павялічвацца пасьля папярэдняй спэцыяльнай падрыхтоўкі праз бронь, прафэсіяльна-тэхнічные школы і курсы цэнтральнага Інстытуту Працы.

6) У шкляной вытворчасьці—у малярным і шліфавальным аддзяленьнях на ўсіх кваліфікацыях, уключна да майстроў і загадчыкаў аддзяленьняў, работы баначніцамі-выдувальшчыцамі.

Для падрыхтоўкі кваліфікаванае жаночае рабочае сілы шкляной вытворчасьці трэба ў арганізуемыя школы фабрычна-заводзкага вучнёўства набраць ня менш 30 проц. дзяўчат.

7) У дрэваапрацоўчай прамысловасьці—у лесапільнях на дапаможных работах, у фанернай вытворчасьці—давёўшы % ужываньня жаночае працы да 50; пры пуску новае фабрыкі ў Віцебску—набраць да 75 проц. работніц; узяць больш рашучы курс на вылучэньне работніц на ўсе кваліфікаваныя работы; у капыла-цьвіковай вытворчасьці—ужываць жаночую працу ва ўсіх кваліфікацыях, а пры далейшым укамплектаваньні гэтае вытворчасьці набіраць пераважную большасьць работніц; у мэбельнай і каробачнай вытворчасьці—ва ўсіх кваліфікацыях ужываць выключна жаночую працу; у бачарнай вытворчасьці—на фугоўках і данкарнях; у вытворчасьці гнутае мэблі—ва ўсіх кваліфікацыях ужываць выключна жаночую прану, апроч гнутарнай.

8) У абойнай вытворчасьці паліграфічнай прамысловасьці: у лябараторыі, друкарскім аддзяленьні, катальным, пакавальным, рэзальным, сьлясарным і лашчыльным аддзяленьнях і на паравых машынах. Для падрыхтоўкі кваліфікаванай жаночай рабочай сілы лічыць патрэбным укамплектаваць бронь дзяўчатамі, якіх накіроўваць у аддзяленьні з ужываньнем кваліфікаванае працы (лябараторыі, друкарскае, сьлясарнае і рэзальнае аддзяленьні). Бронь укампляктоўваць дзяўчатамі на ўсе 100 проц.

9) На чыгуначным транспарце: касіршамі, стрэлачнікамі, кандуктарамі, вагарамі, кантралёрамі цягнікоў, дзяжурнымі па станцыі, праваднікамі вагонаў, токарамі, сьлясарамі, сталярамі, тэлефаністкамі і тэлеграфісткамі.

10) У харчовай прамысловасьці: у мукамольнай прамысловасьці на вальцавых млынох, на набіўцы мяшкоў і на дапаможнай рабоце, у хлебапякарнях, булачных і цукернях—ва ўсіх відах работ уключна да майстроў; у цукерачнай вытворчасьці—ва ўсіх відах работ уключна да майстроў; у крахмальна-патачнай вытворчасьці—ва ўсіх відах работ, апроч цяжка-фізычнае працы; у маслабойнай—салфетчыцамі; у каўбасна-кішачнай—ва ўсіх відах работ, апроч цяжкае фізычнае працы; у дражджоўнях і броварах—вальцоўшчыцамі і заторшчыцамі, фільтроўшчыцамі, квасільшчыцамі, пакавальшчыцамі, мяшальшчыцамі; у піваварнай—заторшчыцамі, халадзільшчыцамі, на разьліўцы, закаркоўцы і мыцьці пляшак.

11) У табачна-махорачнай вытворчасьці — ва ўсіх кваліфікацыях уключна да майстроў.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін**.

Старшыня Цэнтральнай Камісіі па жаночай працы **Танаеўцава**.

1 красавіка 1927 г.
№ 51.

---

Узгоднена з ЦСПСБ, ЦК ЛКСМБ, ВСНГ БССР і НК Асьветы БССР.

## 8. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### АБ КАМІСІЯХ ПА ВУЧНЁЎСТВУ НА ПРАДПРЫЕМСТВАХ.

Народны Камісарыят Працы БССР, пасьля ўзгадненьня з ЦСПСБ, ЦК ЛКСМБ, Вышэйшым Саветам Народнае Гаспадаркі і Народным Камісарыятам Асьветы, пастанаўляе зацьвердзіць наступнае палажэньне аб камісіях па вучнёўству на прадпрыемствах:

### Палажэньне аб камісіях па вучнёўству на прадпрыемствах.

1. Для правільнай пастаноўкі навучаньня падлеткаў кваліфікаванай працы пры індывідуальных і групавых (брыгадных) формах навучаньня, для вызначэньня разьмеру платы майстром за навучаньне вучняў, для вызначэньня меры прыгоднасьці вучня да даннай кваліфікацыі і для вырашэньня шэрагу іншых пытаньняў, якія зьвязаны з пастаноўкаю навучаньня вучняў на прадпрыемствах, а таксама для праверкі іх кваліфікацыі—на прадпрыемствах утвараюцца камісіі па вучнёўству.

2. Камісіі па вучнёўству ўтвараюцца ва ўсіх прадпрыемствах і ўстановах, якія маюць ня менш 200 чал. рабочых або служачых і ў якіх вучацца падлеткі.

Складаюцца гэтыя камісіі з упаўнаважанага заводакіраўніцтва або ўстановы (старшыня камісіі), прадстаўніка фабрычна-заводзкага камітэту і прадстаўніка ЛКСМ.

*Увага 1.* У камісію для экспэртызы вучняў запрашаюцца майстры з правам дарадчага голасу.

*Увага 2.* У тых прадпрыемствах, дзе ўтвораны камісіі па вучнёўству, ліквідуюцца экспэртныя камісіі, складзеныя на падставе пастановы Н. К. Працы БССР за 22 красавіка 1925 г. („Бюл. СНК БССР“ 1925 г. № 2).

3. У задачы камісіі ўваходзіць:

а) распрацоўка ўсіх пытаньняў, якія маюць беспасрэднае дачыненьне да пастаноўкі навучаньня вучняў-падлеткаў на прадпрыемствах;

б) падбор інструктароў брыгад і прыстаўленьне вучняў да кваліфікаваных майстроў;

в) распрацоўка пытаньняў, якія датычацца платы майстром за навучаньне вучняў-падлеткаў;

г) праверка посьпехаў вучняў-падлеткаў, устанаўленьне кваліфікацыі вучняў і ўстанаўленьне для іх адпаведных разрадаў тарыфнай сеткі;

д) распрацоўка праграм навучаньня вучняў і дапасаваньне ўжо існуючых праграм да ўмоў даннага прадпрыемства;

е) устанаўленьне здатнасьці вучня да даннай спэцыяльнасьці або рамяства, на падставе выяўленых ім здольнасьцяй;

ж) праверка правільнасьці навучаньня вучняў, а калі яны ня выказваюць посьпехаў—выяўленьне прычын няпосьпехаў і знаходжаньне захадаў да адхіленьня іх;

з) правядзеньне экспэртызы да ўстаноўленых праграмаю тэрмінаў у тых выпадках, калі вучань відавочна робіць посьпехі ў рабоце;

і) дапамаганьне пастаноўцы тэорэтычнай асьветы вучняў (арганізацыя прафэсіянальна-тэхнічных гурткоў, курсаў па падвышэньні кваліфікацыі і г. д.);

к) зьнішчэньне заган у навучаньні праз склікаьне сходаў вучняў, на якія запрашаюцца і майстры. На пасяджэньнях камісіі выслухоўваюцца розныя даклады, зьвязаныя з пастаноўкаю навучаньня вучняў на прадпрыемствах.

4. Пастановы камісіі зацьвярджаюцца заводакіраўніцтвам пасьля ўзгадненьня з фабрычна-заводзкімі камітэтамі.

5. Пратаколы камісіі складаюцца ў 3-х паасобніках, з якіх—адзін астаецца на прадпрыемстве, другі ў фабрычна-заводзкім камітэце, а трэці накіроўваецца ў камэру (аддзел) працы камісіі па вучнёўству.

6. Камісія свайго апарату ня мае, а карыстаецца апаратам заводакіраўніцтва.

7. Работа камісіі выконваецца ў нерабочы час, апроч праверкі посьпехаў вучняў. Вылікаў з заработнае платы за час, страчаны членамі камісіі на экспэртызу вучняў, ня робіцца. Членам камісіі, якія працуюць на прадпрыемствах ад штукі, час, страчаны на экспэртызу, аплачваецца з разьліку іх сярэдняга заработку.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін**.

Член Калегіі, Ст. Інспэктар па рэгуляваньню рынку працы НКП БССР **С. Мышалаў**.

17 мая 1927 г.
№ 62.

---

Узгоднена з Цэнтральным Саветам Прафэсіянальных Саюзаў Беларусі.

## 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ УТВАРЭНЬНІ ПРЫ МЕНСКІМ, ВІЦЕБСКІМ І ГОМЕЛЬСКІМ АДДЗЕЛАХ ПРАЦЫ БЮРО НАГЛЯДУ ПА ПРАЦОЎНЫХ СПРАВАХ.

1. Для ўпарадкаваньня нагляду за законнасьцю рашэньняў расцэначна-канфліктных камісій, міравых камэр і пасрэдніцкіх органаў,

пры Менскім, Віцебскім і Гомельскім аддзелах Працы ўтвараюцца акруговыя Бюро Нагляду па працоўных справах.

Да кампэтэнцыі акруговых Бюро Нагляду па працоўных справах належыць:

а) вырашэньне пытаньняў па скаргах старон і зацікаўленых асоб на рашэньні расцэначна-кафліктных камісій, міравых камэр і пасрэдніцкіх судоў і скасаваньне гэтых рашэньняў па матывах неадпаведнасьці іх закону;

б) прыйманьне ад старон (аддзельных асоб, груп рабочых і прафэсіянальных саюзаў) скарг на ўвайшоўшыя ў сілу пастановы і рашэньні працоўных сэсій і апратэставаньне іх праз пракурора па працоўных справах у парадку нагляду.

2. Акруговыя Бюро Нагляду складаюцца з Загадчыка Аддзелу Працы (Загадчык Бюро), Памочніка Акруговага Пракурора па працоўных справах і прадстаўніка акруговага савету прафэсіянальных саюзаў (у Менску—ЦСПСБ).

3. Пытаньні ў Бюро Нагляду вырашаюцца простаю большасьцю галасоў. Калі ёсьць асобная думка каго-небудзь з членаў Бюро, то пытаньне па яго заяве можа быць на працягу 3 дзён перададзена на вырашэньне ў Бюро Нагляду па працоўных справах пры Н. К. Працы БССР, аднак выкананьне пастановы акруговага Бюро Нагляду ў такім выпадку не прыпыняецца.

4. На пастановы акруговых Бюро Нагляду старанамі могуць падавацца скаргі ў Бюро Нагляду па працоўных справах пры Н. К. Працы БССР.

Такія скаргі падаюцца ў парадку, устаноўленым пастановаю Н. К. Працы БССР за 8 сакавіка 1926 г. № 18 „аб парадку падачы і разгляду скарг на рашэньні РКК, міравых камэр і пасрэдніцкіх судоў“ („Бюл. СНК БССР 1926 г. № 4, стар. 59“). Падача скаргі на пастанову акруговага Бюро Нагляду па працоўных справах не прыпыняе выкананьня гэтае пастановы.

5. Пададзеныя ў акруговыя Бюро Нагляду скаргі павінны быць разгледжаны не пазьней 3 дзён з дня падачы.

6. У тых акругах, дзе не арганізаваны акруговыя Бюро Нагляду па працоўных справах, Старшыня Акруговага Аддзелу (камэры) працы і інспэктары працы ажыцьцяўляюць нагляд па працоўных справах дапасавальна да гэтае пастановы.

7. Акруговыя Бюро Нагляду па працоўных справах карыстаюцца апаратам акруговых аддзелаў працы.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бенэк**.

Заг. Бюро Нагляду па Працоўных Справах і Пракурор па Працоўных Справах пры Н. К. Юстыцыі БССР **Б. Глезераў**.

30 мая 1927 г.
№ 63.

Зацьверджана Калегіяю Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забесьпячэньня БССР (прат. № 6, за 18-20 красавіка 1927 году, арт. 19).

## 10. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забесьпячэньня БССР

АБ ПАРАДКУ АЖЫЦЬЦЯЎЛЕНЬНЯ „ПАЛАЖЭНЬНЯ АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНІ НЕПРАЦАЗДОЛЬНЫХ ЧЛЕНАЎ СЕМ'ЯЎ ВАЙСКОЎЦАЎ, ІНВАЛІДАЎ ВАЙНЫ І НЕКАТОРЫХ ІНШЫХ КАТЭГОРЫЙ АСОБ, НЯЗДОЛЬНЫХ ДА ПРАЦЫ"

Пры ажыцьцяўленьні „Палажэньня аб дзяржаўным забесьпячэньні непрацаздольных членаў сем'яў вайскоўцаў, інвалідаў вайны і некаторых іншых катэгорый асоб, няздольных да працы", зацьверджанага Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам і Саветам Народных Камісараў БССР (З. З. БССР 1925 г. № 45, арт. 362) і Пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў СССР „аб забесьпячэньні сем'яў грамадзян, якія заклікаsuccessors на сапраўдную вайсковую службу ў кадравым складзе частак Рабоча-Сялянскае Чырвонае Арміі" (З. З. СССР 1927 г. № 3, арт. 30), Народны Камісарыят Сацыяльнага Забесьпячэньня прапануе кіравацца наступным.

### I. Агульная часьць.

1) Права на дзяржаўнае забесьпячэньне, паводле гэтай інструкцыі, маюць памянёныя ніжэй асобы, якія не пазбаўлены па Канстытуцыі БССР выбарных праў:

а) члены сем'яў асоб, узятых у Чырвоную Армію і Флет;

б) інваліды вайны, асобы, якія бралі ўдзел у часы грамадзянскай вайны ў чырвоных партызанскіх атрадах, а таксама і асобы, пацярпеўшыя ад контр-рэвалюцыі;

в) члены сем'яў вайскоўцаў, інвалідаў вайны, асоб, якія бралі ўдзел у часы грамадзянскай вайны ў чырвоных партызанскіх атрадах, а таксама і асоб, пацярпеўшых ад контр-рэвалюцыі, памёршых або невядома дзе прапаўшых;

г) страціўшыя працаздольнасьць асобы, якія маюць асаблівыя заслугі перад рэвалюцыяй або ў галіне навукі, а таксама і непрацаздольныя члены іх сем'яў, якія па сваім матар'яльным становішчы патрабуюць дапамогі;

д) глуханямыя, сьляпыя і састарэлыя, калі яны няздольны да працы і па сваім матар'яльным становішчы патрабуюць дапамогі.

### II. Забесьпячэньне сем'яў асоб, узятых у Чырвоную Армію і Флёт.

2. Забесьпячэньне сем'яў асоб, узятых у Чырвоную Армию і Флёт, робіцца на падставе Пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў СССР „аб забесьпячэньні сем'яў грамадзян, якія заклікаsuccessors на сапраўдную вайсковую службу ў кадравым складзе частак Рабоча-Сялянскае Чырвонае Арміі (З. З. СССР 1927 г. № 3, арт. 30).

3. Калі грамадзяне, якія па сваім сямейна-маемасным становішчы карыстаюцца правам на льготу трэцяга і другога разраду, узяты на сапраўдную вайсковую службу ў ка-

дравым складзе частак Рабоча-Сялянскае Чырвонае Арміі, то паказаныя ніжэй члены іх сем'яў, што знаходзяцца да дня прызыву на іх утрыманьні, карыстаюцца правам на сацыяльнае забесьпячэньне:

а) дзеці, браты і сёстры, якія ня маюць 16 гадоў;

б) дзеці, браты і сёстры, якія аднесены па калецтву да аднае з першых трох груп, калі яны страцілі працаздольнасьць ня маючы 16 гадоў;

в) непрацаздольныя бацькі і жонка, якія аднесены да аднае з першых трох груп калецтва;

г) тыя з пералічаных у пункце „в“ асоб, якія хоць і зьяўляюцца працаздольнымі, але маюць на сваёй апецы дзяцей, братоў і сясьцёр узятага ў войска, якія ня маюць 8-мі гадоў.

*Увага.* Пад забесьпячэньне падпадаюць паказаныя ў гэтым артыкуле члены сем'яў асоб, якія ўзяты на сапраўдную вайсковую службу ў кадравым складзе Рабоча-Сялянскае Чырвонае Арміі, і ў тым выпадку, калі пасьля прызыву будуць зьмены ў сямейным становішчы ўзятага ў войска, якія-б давалі права на льготу трэцяга, другога або першага разраду.

4. Асобы, памянёныя ў арт. 3 гэтае інструкцыі, ад дня падачы заявы аб назначэньні дапамогі і на працягу ўсяго часу знаходжаньня ўзятых у войска на сапраўднай службе ў кадравым складзе частак Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і апроч гэтага на працягу двух месяцаў ад дня звальненьня ў доўгатэрміновы водпуск, забясьпечваюцца штомесячнаю дапамогаю, якая ўстанаўляецца ў кожным паасобным выпадку у акруговых гарадох—акруговаю міжведамственнаю камісіяю па назначэньні пэнсій і дапамог, а ў сельскіх мясцовасьцях—камісіяю пры раённых выканаўчых камітэтах, якія існуюць на падставе абежніку Н. К. Унутраных Спраў, Н. К. Сацыяльнага Забесьпячэньня і Н. К. Аховы Здароўя БССР за 1 лістапада 1925 году № 48.

5. Адзінокія члены сем'яў памянёных вышэй асоб, калі яны зусім непрацаздольны або састарэліся, могуць замест выдаваемае дапамогі зьмяшчацца ў дамы састарэлых на тэрмін, прадугледжаны ў арт. 4 гэтае інструкцыі.

6. Такімі самымі правамі карыстаюцца і сем'і вайскоўцаў радавога і малодшага тэрміновае службы начальніцкага складу, якія адбываюць сапраўдную службу ў кадравым складзе Рабоча-Сялянскае Чырвонае Арміі.

7. Сем'і вайскоўцаў, якія дэзэртыравалі з Чырвонае Арміі, пазбаўляюцца забесьпячэньня.

8. Калі асобы, памянёныя ў арт. 3 і 6 гэтае інструкцыі, падпадаюць пад забесьпячэньне ў парадку сацыяльнага страхаваньня або спэцыяльных законаў, то яны права на забесьпячэньне па лініі органаў Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забесьпячэньня ня маюць.

9. Усе асобы, памянёныя ў гэтым разьдзеле, карыстаюцца бясплатнаю мэдыцынскаю дапамогаю і іншымі прадугледжанымі льготамі на працягу тэрміну, паказанага ў арт. 4 гэтае інструкцыі.

## III. Дзяржаўнае забесьпячэньне інвалідаў вайны, асоб, браўшых удзел у часы грамадзянскай вайны ў чырвоных партызанскіх атрадах, а таксама асоб, пацярпеўшых ад контр-рэвалюцыі.

10. Атрымоўваць дзяржаўнае забесьпячэньне маюць права вайсковыя служачыя Чырвонай і старой арміі, а таксама асобы, браўшыя

дзел у часы грамадзянскае вайны ў чырвоных партызанскіх атрадах, якія страцілі працаздольнасьць з прычыны раненьня, хваробы або калецтва на вайне, або ў часы знаходжаньня на вайсковай службе, або ў зьвязку з яе адбыцьцём, а таксама ў зьвязку з знаходжаньнем у партызанскіх атрадах у часы грамадзянскай вайны.

11. Незабясьпечаным інвалідам вайны першых трох груп інваліднасьці, якія страцілі рукі або ногі, выдаецца пэнсія ў першую чаргу, у параўнаньні з тымі інвалідамі першых трох груп, якія іх ня страцілі.

12. Тыя інваліды вайны, якія жывуць на непрацоўныя даходы і карыстаюцца наймоваю рабочаю сілаю, права на пэнсію ня маюць, незалежна ад іх сямейна-маемаснага становішча, а таксама і таго, што яны па сваёй працаздольнасьці аднесены да першых трох груп інваліднасьці.

13. Інвалідам вайны першых трох груп інваліднасьці, якія жывуць у сельскіх мясцовасьцях і маюць уласную сельскую гаспадарку, калі ў іх ёсьць непрацаздольныя члены сям'і, пэнсія выдаецца ў залежнасьці ад гадавога даходу гаспадаркі, а іменна:

а) поўная пэнсія выдаецца, калі сельская гаспадарка дае ня больш 300 рублёў даходу ў год;

б) палавіна пэнсіі выдаецца, калі сельская гаспадарка дае больш 300 рублёў, але ня больш 600 рублёў даходу ў год.

в) пэнсія зусім не выдаецца, калі сельская гаспадарка дае больш 600 рублёў даходу ў год;

14. Інвалідам вайны, якія жывуць у гарадох або мястэчках, пэнсія выдаецца ў поўным разьмеры толькі ў тым выпадку, калі іх працоўны заработак у м-ц не перавышае 30 рублёў. Калі-ж іх месячны заработак перавышае 30 руб., то пэнсія не выдаецца зусім.

15. Адзінокім інвалідам вайны, адбываючым кару ў дамох зьняволеньня, пэнсія не выдаецца ўвесь час адбываньня кары.

Калі-ж інвалід мае непрацаздольную сям'ю, то яго сям'і, у залежнасьці ад ліку непрацаздольных членаў, выдаецца пэнсія, паводле норм пэнсій для сем'яў памёршых або невядома дзе прапаўшых вайскоўцаў і інвалідаў вайны, увесь час знаходжаньня інваліда ў доме зьняволеньня.

16. Інвалідам вайны, якія атрымалі патэнт на права гандлю або вытворчасьці, пэнсія не выдаецца зусім.

17. Назначаная інвалідам вайны пэнсія выдаецца штомесяц грашмі па стаўках, зацьверджаных Саветам Народных Камісараў БССР, у разьмеры, паказаным у арт. 13, пункты „а“ і „б“, і арт. 14 гэтае інструкцыі.

Ніякія іншыя віды дапамог не выдаюцца, апроч установленых Саветам Народных Камісараў БССР дадатковых дапамог на нараджэньне, кармленьне і пахаваньне дзяцей інвалідаў, а таксама на палепшаньне харчу па прапанове доктара або на пахаваньне інваліда, калі на гэтыя мэты ёсьць асыгнаваньні.

18. Тыя інваліды вайны, якія не атрымоўвалі пэнсіі без грунтоўных прычын на працягу году, пачынаючы ад дня апошняе выдачы яе, і не давялі да ведама органу сацыяльнага забесьпячэньня, трацяць права на ўсе неатрыманыя імі сумы пэнсіі, якія ў такім выпадку ідуць у даход скарбу.

19. Пэнсія інвалідам вайны выдаецца па іх хадайніцтвах, да якіх павінны быць далучаны ўсе патрэбныя дакумэнты, у залежнасьці ад асыгнаваньня на гэтую мэту сродкаў, ад дня пастановы адпа.

веднай міжведамственнай камісіі па назначэньні пэнсій і дапамог да дня сьмерці пэнсіянэра, калі толькі яго працаздольнасьць або сямейна-маемаснае становішча не паднімецца да тае нормы, па якой пэнсія не выдаецца.

2. Інваліды вайны 1-ае, 2-ое і 3-яе груп карыстаюцца льготамі па падатках, па аплаце камунальных паслуг і г. д., паводле дзеючых законаў і загадаў.

21. Адзінокія і бяспрытульныя інваліды вайны 1-ае і 2-ое груп могуць зьмяшчацца ў інвалідныя дамы; ў такіх выпадках пэнсія ім не выдаецца.

22. Інваліды 4-ае, 5-ае і 6-ае груп права на атрыманьне пэнсіі ня маюць, а ў выключных выпадках, калі яны зьбяднелі, ім даюцца прадугледжаныя законамі льготы.

Апроч гэтага, трэба дапамагаць гэтым катэгорыям інвалідаў, зьмяшчаючы іх упрацоўныя каапэрацыйныя інвалідныя аб'яднаньні, пасылаючы іх на работу або перавучваючы тэй ці іншай кваліфікацыі.

23. Усе інваліды грамадзянскай і імпэрыялістычнай вайны, страціўшыя на вайне рукі або ногі, маюць права атрымоўваць бясплатна пратэзы.

Пратэзы інваліды атрымоўваюць на падставе іх хадайніцтваў перад органамі сацыяльнага забесьпячэньня на мясцох, якія павінны клапаціцца аб своечасным забесьпячэньні імі інвалідаў, устанаўляючы поўны падлік інвалідаў, патрабуючых пратэз, а таксама і чарговасьць іх атрыманьня.

24. Правілы, зьмешчаныя ў арт. арт. 10—23 гэтае інструкцыі, пашыраюцца таксама і на партызан, якія знаходзіліся ў часы грамадзянскай вайны ў чырвоных партызанскіх атрадах супроць белых войск, на асоб, пацярпеўшых ад контр-рэвалюцыі, і на працоўных сялян, якія былі ўзяты часткамі Чырвонае Арміі ў часы грамадзянскай вайны для перавозкі вайсковых грузаў.

*Увага*. Асобы, пацярпеўшыя ад контр-рэвалюцыі, і працоўныя сяляне, якія былі ўзяты часткамі Чырвонае Арміі ў часы грамадзянскай вайны для перавозкі вайсковых грузаў, пэнсію могуць атрымаўваць толькі ў выпадку, калі яны ў зьвязку з гэтым страцілі амаль што цалкам працаздольнасьць ад агнястрэльнага раненьня, або страцілі рукі або ногі.

25. Паралічаным у гэтым разьдзеле асобам органамі аховы здароўя даецца бясплатная мэдыцынская дапамога.

## IV. Дзяржаўнае забесьпячэньне сем'яў памёршых або невядома дзе прапаўшых вайскоўцаў, інвалідаў вайны, партызан, браўшых удзел у часы грамадзянскай вайны ў чырвоных партызанскіх атрадах, і асоб, пяцярпеўшых ад контр-рэвалюцыі.

26. Калі вайсковец або інвалід вайны—утрыманцы дзяржаўнага забесьпячэньня памруць, а таксама калі належным чынам будзе ўстаноўлена, што вайсковец прапаў невядома дзе, то памянёныя ніжэй непрацаздольныя члены іх сем'яў, калі толькі апошнія былі на іх утрыманьні і ня маюць завошта жыць, маюць права на сацыяльнае забесьпячэньне:

а) дзеці да 16 гадоў,

б) састарэлыя непрацаздольныя бацькі, калі апроч памершага, або невядома дзе прапаўшага вайскоўца або інваліда вайны ў сям'і няма іншых паўналетніх працаздольных сыноў, хаця-б жывучых асобна ад бацькоў:

в) працаздольная жонка, якая даглядае дзяцей-малалетак памёршага або невядома дзе прапаўшага вайскоўца, пакуль гэтыя дзеці дарастуць да 8-мі год.

27. Сем'і асоб, памянёных у арт. 26 гэтае інструкцыі, якія жывуць на непрацоўныя даходы і карыстаюцца пры гэтым наймовую рабочаю сілаю, права на пэнсію ня маюць, незалежна ад іх сямейнамаемаснага становішча, а калі яны яе ў сучасны момант і атрымаўваюць, то выдача яе ім ў далейшым спыняецца.

28. Разьмер пэнсіі залежыць ад ліку непрацаздольных членаў сям'і і яе сямейна-маемаснага становішча, пры гэтым поўнаю стаўкаю пэнсіі лічыцца норма, устаноўленная арт. 24 разьдзелу VI „Палажэньня аб дзяржаўным забесьпячэньні“.

Ніякія іншыя віды дапамог не выдаюцца, апроч устаноўленых Саветам Народных Камісараў БССР датковых дапамог на пахаваньне дзяцей асоб, памяненых у п. 26 гэтае інструкцыі і дапамог на палепшаньне харчу па прапанове доктара, калі на гэту мэту асыгнаваны сродкі.

29. Сем'ям асоб, памянёных у арт. 26 гэтае інструкцыі, якія жывуць у сельских мясцовасьцмх і маюць ўласную сельскую гаспадарку, пэнсія выдаецца ў залежнасьці ад гадавога даходу гаспадаркі: поўная пэнсія выдаецца, калі сельская гаспадарка дае ня больш 300 рублеў даходу ў год, палавіна пэнсии выдаецца, калі сельская гаспадарка дае больш 300 р., але ня больш 600 рублёў дахаду ў год; пэнсія зусім ня выдаецца, калі сельская гаспадарка дае больш 600 рублеў дахаду ў год.

30. Сем'ям асоб, памянёных у п. 26 гэтае інструкцыі, якія жывуць у гарадох або мястэчках, пэнсія выдаецца ў поўным разьмеры толькі тады, калі працоўны заработак сям'і ў месяц не перавышае 2-х ставак пэнсіі, на якую маюць права падпадаючыя пад забесьпячэньне члены гэтае сям'і.

У іншых выпадках пэнсія не выдаецца да тых пор, пакуль сямейна-маемаснае становішча ня зьменіцца да паказанай у гэтым артыкуле нормы.

31. Калі сем'і асоб, памянёных у п. 26 гэтае інструкцыі, пераедуць на сталае жыцьцё ў іншыя Рэспублікі СССР, то яны зьнімаюцца з падліку і забесьпячэньня.

32. Пэнсія непрацаздольным членам сем'яў памёршых або невядома дзе прапаўшых вайскоўцаў і інвалідаў вайны выдаецца па іх хадайніцтвах, да якіх павінны быць далучаны ўсе патрэбныя дакумэнты, у залежнасьці ад асыгнаваньня на гэту мэту сродкаў, ад дня пастановы адпаведнае міжведамственай камісіі па назначэньні пэнсій і дапамог на тэрмін, паказаны ў п. п. „а“, „б“, „в“ арт. 26 гэтае інструкцыі.

33. Як правіла, праз пэўны час, але ня больш як адзін раз на год, трэба пераглядаць пэнсіныя справы для зьняцьця пэнсіі з тых дзяцей, якія сталі паўналетнімі і з тых членаў сям'і, матарыяльнае становішча якіх зьмянілася да тае нормы, па якой пэнсія не выдаецца.

34. Пэнсія ня плаціцца тым членам сям'і, якія адбываюць кару ў дамох зьняволеньня, увесь час адбываньня кары.

35. Сумы неатрыманай пэнсіі перадаюцца ў даход дзяржаўнага скарбу парадкам, устаноўленым у арт. 18 гэтай інструкцыі.

36. Правілы, зьмешчанныя у арт. арт. 26—35 гэтай інструкцыі, пашыраюцца на непрацаздольных членаў сем'яў асоб, пацярпеўшых ад контр-рэвалюцыі (белапольскай акупацыі), партызан, якія прымалі ўдзел у часе грамадзянскай вайны ў чырвоных партызанскіх атрадах супроць белых войск, а таксама і на працоўных сялян, якія былі ўзяты часткамі Чырвонае Арміі ў часы грамадянскай вайны для перавозкі вайсковых грузаў.

*Увага.* Сем'і асоб, пацярпеўшых ад контр-рэвалюцыі, і працоўных сялян, якія былі ўзяты часткамі Чырвонае Арміі ў часы грамадзянскай вайны для перавозкі вайсковых грузаў, пэнсію могуць атрымоўваць толькі ў выпадку, калі гаспадары гэтых сем'яў былі паранены агнястрэльнаю зброяю, або калі яны страцілі рукі або ногі або памёрлі ў зьвязку з гэтам або невядома дзе прапалі.

37. Пералічаным у гэтым разьдзеле асобам даецца органамі аховы здароўя бясплатная мэдыцынская дапамога.

## V. Пэрсанальныя пэнсіі і дапамогі.

38. Пэрсанальныя пэнсіі назначаюцца асобам, якія маюць выключныя заслугі перад Рэспублікай, выдатным дзеячом рэвалюцыі, партыйным работнікам дарэвалюцыйнага часу, асабліва выдатным, быўшым палітычным катаржанам, асобам, якія займалі ў рэвалюцыйны час галоўныя партыйныя, прафэсіянальныя і савецкія пасады, дзеячом навукі, тэхнікі і мастацтва, якія ўнесьлі сваёю працай у адпаведныя галіны каштоўныя ўклады ў агульна-саюзную і беларускую культуру, асобам, якія сваёю працаю унесьлі значныя ўдасканаленьні ў дзяржаўны апарат або значныя палепшаньні ў гаспадарчае, эканамічнае і культурнае жыцьцё дзяржавы, асобам, якія атрымалі ордэны баявога і працоўнага Чырвонага Сьцягу і наогул асобам, якія выявілі выключную самаадданасьць і адданасьць Савецкай уладзе, знаходзячыся ў Чырвонай Арміі і чырвоных партызанскіх атрадах у часе грамадзянскай вайны.

39. Пэрсанальныя пэнсіі выдаюцца памяненым у арт. 38 гэтай інструкцыі асобам, аднесеным па страце імі працаздольнасьці да першых трох груп інваліднасьці.

40. Пры назначэньні пэрсанальных пэнсій бяруцца пад увагу ступень і характар выключных заслуг асоб, памяненых у арт. 38 гэтае інструкцыі, мера страты працаздольнасьці, лік непрацаздольных членаў сям'і, якія знаходзяцца на іх утрыманьні, становішча здароўя, маемаснае становішча і наогул усе іншыя ўмовы ўкожным асобным выпадку, пры гэтым разьмер пэнсіі ня можа перавышаць падвойнай вышэйшай тарыфнай стаўкі БССР.

41. Поўная асноўная стаўка пэрсанальнай пэнсіі да 122 рублеў у м-ц можа назначацца асобам, якія маюць асабліва выдатныя палітычныя і прафэсіянальныя заслугі, калі імі страчана працаздольнасьць на 100 проц. так, што яны ня могуць абыйсьціся без побочнага догляду і калі на іх утрыманьні ёсьць непрацаздольная вялікая сям'я.

42. Асобам, якія маюць сярэднія заслугі ў галінах рэвалюцыйнай, палітычнай, прафэсіянальнай, навукова-асьветнай і тэхнічнай дзейнасьці і па службе ў дзяржаўным апараце, назначаецца сярэдняя стаўка пэрсанальнай пэнсіі ў разьмеры ад 75 да 100 руб. у месяц.

43. Асобам, якія маюць мінімальныя, памянёныя у арт. 42 гэтае інструкцыі, заслугі, назначаецца мінімальная стаўка пэрсанальнай пэнсіі ў размеры ад 30 да 60 рублёў у месяц.

44. Пэнсія з пэрсанальных пэнсіянэраў, калі яны дзе-небудзь працуюць і іх заробак перавышеае стаўку пэнсіі, зьнімаецца на ўвесь час працы.

45. Калі асоба, якая мае права на пэрсанальную пэнсію, памрэ або невядома дзе адсутнічае, то яе сям'і выдаецца з адным непрацаздольным членам—палавіна пэнсіі, з двума непрацаздольнымі—дзьве трэція часткі, з трыма і больш—поўная пэнсія, якую атрымоўвала-б або магла-б атрымоўваць памёршая або невядома дзе адсутная асоба.

46. Правілы, зьмешчаныя ў арт. 44 гэтай інструкцыі, цалкам пашыраюцца і на сем'і памёршых або невядома дзе адсутных пэрсанальных пэнсіянэраў.

47. Пэрсанальныя пэнсіі назначаюцца незалежна ад таго, на тэрыторыі якое з Саюзных рэспублік былі зроблены выключныя заслугі тае ці іншае асобы, але пры ўмове пражываньня яе ў момант падачы заявы на тэрыторыі БССР.

48. Пры назначэньні пэрсанальнай пэнсіі асобам, якія павінны атрымоўваць забесьпячэньне па лініі органаў сацыяльнага страхаваньня, сума пэнсіі, якую атрымоўвала, або мела права атрымліваць паказаная вышэй асоба, уносіцца Галоўнаю Управаю Сацыяльнага Страхаваньня ў Народны Камісарыят Грашовых Спраў БССР на аднаўленьне крэдыта ў Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забесьпячэньня.

49. Пры назначэньні пэнсіі пэрсанальным пэнсіянэрам у пастанове міжведамственай камісіі павінна быць паказана, у якім разьмеры і на які тэрмін назначана пэнсія.

Пры назначэньні пэнсій сем'ям асоб, памянёных у арт. 38 гэтай інструкцыі, паказваецца, у якім разьмеры назначана пэнсія асобным членам сям'і.

50. Апроч пэрсанальных пэнсій і незалежна ад іх назначэньня асобам, памянёным у арт. арт. 38 і 45 гэтай інструкцыі, могуць выдацца у разьмеры, якія ўстанаўляюцца ў кожным паасобным выпадку, але ня больш падвойнай устаноўленай пэнсіі, аднаразовыя дапамогі на пахаваньне, лячэньне і на іншыя выключныя патрэбы.

51. Пераліченым у гэтым разьдзеле асобам даецца органамі аховы здароўя бясплатная мэдыцынская дапамога.

## VI. Забесьпячэньне глуханямых, сьляпых і састарэлых.

52. Глуханямыя і сьляпыя, якія сталі паўналетнімі, калі яны па непрацаздольнасьці аднесены да першых трох груп і ня маюць навошта жыць, забясьпечваюцца праз разьмяшчэньне іх па дамох састарэлых, у крайнім-жа выпадку, калі гэтага зрабіць нельга, ім выдаецца ў залежнасьці ад групы інваліднасьці і асыгнаваньня на гэту мэту сродкаў часовая дапамога ў разьмеры ня больш 7 рублёў у месяц.

53. Тыя глуханямыя і сьляпыя, якія могуць працаваць, або якіх можна навучыць рамяству, разьмяшчаюцца па майстэрнях і арцелях інваліднай каапэрацыі.

54. Адзінокія састарэлыя і зьбяднеўшыя, калі яны ня маюць права на сацыяльнае страхаваньне, разьмяшчаюцца ў дамох для састарэлых, а дзе такіх дамоў няма—ім выдаецца ў залежнасьці ад

групы інваліднасьці і асыгнаваньня на гэту мэту сродкаў часовая дапамога ў разьмеры ня больш 7 рублёў у месяц.

55. Асобам, якія па розных прычынах зьбяднелі, і дэклясаванаму элемэнту, ня маючым навошта жыць, у выключных выпадках можа выдавацца адначасовая дапамога у залежнасьці ад асыгнаваньня сродкаў на гэту мэту, у разьмеры ня больш 7 рублёў у месяц.

56. Калі асобы, памянёныя ў гэтым разьдзеле, адбываюць кару ў дамох зьняволеньня, то выдача ім дапамогі спыняецца на ўвесь час адбываньня кары.

57. Адначасовая і часовая дапамогі памянёным у гэтым разьдзеле асобам выдаюцца на падставе іх хадайніцтваў, да якіх павінны быць далучаны ўсе патрэбныя дакумэнты, у залежнасьці ад асыгнаваньня сродкаў на гэту мэту, ад дня пастановы адпаведнае міжведамственнай камісіі па назначэньні пэнсій і дапамог, на той ці іншы пэрыяд, гледзячы па ступені забясьпечанасьці і г. д.

58. Памянёным у гэтым разьдзеле асобам даецца бясплатная мэдыцынская дапамога.

## VII. Парадак назначэньня забесьпячэньня.

59. Усе асобы, якія маюць права атрымоўваць дзяржаўнае забесьпячэньне паводле гэтае інструкцыі, апроч паказаных у арт. арт. 38 і 45, падаюць заяву аб назначэньні пэнсіі або дапамогі па месцы іх сталага жыцьця ў раённы выканаўчы камітэт, або інспэктару па сацыяльным забесьпячэньні пры акруговым выканаўчым камітэце.

60. У заяве павінны быць паказаны: імя, імя па бацьку і прозьвішча падаўцы, век усіх асоб, на якіх падавец просіць пэнсію або дапамогу, усе даданыя да заявы дакумэнты і час падачы заявы; заява павінна быць падпісана падаўцом.

*Увага.* Заява можа быць пададзена і вусна. У такім выпадку асоба, якая атрымала заяву, павінна зараз-жа запісаць яе, адзначыўшы аб няпісьменнасьці заяўніка.

61. Да заявы у залежнасьці ад таго, да якой катэгорыі забясьпечаных адносіцца падавец, павінны быць далучаны наступныя дакумэнты:

*А. Для асоб, памяненых у арт. 3 і 6 гэтае інструкцыі.*

а) пасьведчаньне аб тым, што вайсковец сапраўды ў момант прызыву на сапраўдную вайсковую службу ў кадравы склад частак Рабоча-Сялянскае Чырвонае Арміі карыстаўся, па сваім сямейна-маёмасным становішчы, льготай трэцяга або другога разраду;

б) пасьведчаньне сельскага савету і сельскага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, гарадзкога або местачковага савету, або міліцыі, па месцы жыцьця ўзятага ў войска, аб тым, што ўсё асобы, якія маюць права на забесьпячэньне, сапраўды знаходзіліся на ўтрыманьні вайскоўца да прызыву яго на сапраўдную вайсковую службу ў кадравы склад Рабоча-Сялянскае Чырвонае Арміі;

в) выпіскі ЗАГС'у аб веку дзяцей, якія маюць права на забесьпячэньне;

г) пастанова мэдыцынскай камісіі аб працаздольнасьці бацькоў, жонкі ўзятага ў войска, калі яны просяць аб назначэньні ім забесьпячэньня;

д) калі хадайніцтвы аб забесьпячэньні падаюць паўналетнія (маючыя 16-ць год), але непрацаздольныя браты, сёстры, дзеці ўзятага ў войска, то да хадайніцтва павінны быць далучаны: пасьведчаньне аб тым, што яны сапраўды знаходзіліся на ўтрыманьні узятага ў войска да часу прызыву яго ў кадравы склад частак Рабоча-Сялянскае Чырвонае Арміі, страцілі працаздольнасьць да 16-ці год і па сваёй непрацаздольнасьці аднесены да першых трох груп;

е) усе гэтыя асобы павінны далучаць да хадайніцтва па адным пасьведчаньні на кожную сям'ю аб тым, што гаспадар іх знаходзіцца на сапраўднай службе ў кадравай частцы Рабоча-Сялянскае Чырвонае Арміі. Факт знаходжаньня ў Чырвонай Арміі павінен сьведчыцца штогод для далейшай выдачы забесьпячэньня;

ж) такія-ж самыя дакумэнты далучаюць да сваіх заяў і сем'і асоб малодшага начальніцкага складу, якія адбываюць сапраўдную службу ў кадравым складзе Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі.

*Б. Для асоб, памяненых у арт. 10,22 і 24 гэтай інструкцыі.*

а) для інвалідаў вайны і вайскоўцаў—дакумэнт аб тым, што інваліднасьць зьвязана з праходжаньнем вайсковай службы;

*Увага.* У выключных выпадках гэты факт можа быць пацьверджаны для асоб, якія жывуць у сельскіх мясцовасьцях, сельскім саветам і сельскім камітэтам сялянскага таварыства ўзаемадапамогі, на падставе пэўных зьвестак, якія ў іх ёсьць, пад іх адказнасьцю за правільнасьць гэтых зьвестак.

б) для быўшых чырвоных партызан, сялян, страціўшых працаздольнасьць у зьвязку з перавозкаю вайсковых грузаў у часы грамадзянскай вайны і асоб, пацярпеўшых ад контр-рэвалюцыі—пасьведчаньне сельскага савету і сельскага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі аб тым, што тая ці іншая асоба сапраўды прымала ўдзел у часы грамадзянскай вайны ў партызанскіх чырвоных атрадах, або была ўзята часткаю Чырвонае Арміі для перавозкі грузаў у часы грамадзянскай вайны, або сапраўды пацярпела ад контр-рэвалюцыі і страціла ў зьвязку з гэтым сваю працаздольнасьць. Пасьведчаньні выдаюцца на падставе пэўных зьвестак, якія ёсьць ва ўстанове і пад іх адказнасьцю за правільнасьць такіх зьвестак;

*Увага.* У гарадох і мястэчках такія дакумэнты выдае гарадзкі і местачковы савет, або міліцыя, на падставе пэўных зьвёстак, якія ў іх ёсьць.

в) зьвесткі аб сямейна-маемасным становішчы, пасьведчаныя ў сельскіх мясцовасьцях сельскім саветам і сельскім камітэтам сялянскага таварыства ўзаемадапамогі, а ў гарадох і мястэчках—гарадзкім і местачковым саветам, або міліцыяю (на ўсіх непрацаздольных членаў сям'і павінны быць далучаны пастановы мэдыцынскай камісіі аб меры непрацаздольнасьці);

г) пастанова мэдыцынскай камісіі аб страце працаздольнасьці самога заяўніка;

д) пэнсійная кніжка або іншыя дакумэнты, якія сьведчаць аб тым, што асоба раней атрымоўвала пэнсію або дапамогу (калі яна атрымоўвала).

*В. Для асоб, памяненых у арт арт. 26 і 36 інструкцыі:*

а) для непрацаздольных членау сем'яў памёршых або невядома дзе прапаўшых вайскоўцаў пасьведчаньне адпаведных вайсковых устаноў або частак аб тым, што вайсковец у час праходжаньня вайсковай службы памёр або невядома дзе прапаў.

*Увага.* У выключных выпадках гэты факт можа быць пацьверджаны для тых асоб, якія жывуць у сельскіх мясцовасьцях, сельскім саветам і сельскім камітэтам сялянскага таварыства ўзаемадапамогі, на падставе пэўных зьвестак, якія ў іх ёсьць, пад іх адказнасьць за правільнасьць такіх зьвестак.

б) для непрацаздольных членаў сем'яў памёршых або невядома дзе прапаўшых: партызан, прымаўшых удзел у чырвоных партызанскіх атрадах у час грамадзянскай вайны, сялян, якія былі ўзяты часткамі Чырвонае Арміі ў час грамадзянскай вайны для перавозкі вайсковыхгр узаў, для асоб, пацярпеўшых ад контр-рэвалюцыі—пасьведчаньне сельскага савету, сельскага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі, гарадзкога, местачковага савету або міліцыі, па месцы жыцьця сям'і памянёнай вышэй асобы, аб тым, што гаспадар сапраўды памёр або невядома дзе прапаў у зьвязку з знаходжаньнем у чырвоных партызанскіх атрадах, перавозкаю вайсковых грузаў Чырвонае Арміі ў час грамадзянскай вайны, або ў выніку белапольскага гвалту;

в) пастанова мэдыцынскай камісіі аб страце працаздольнасьці асобамі, якія хадайнічаюць аб назначэньні забесьпячэньня;

г) дакумэнты органаў ЗАГС'у аб веку дзяцей;

д) зьвесткі аб сямейна-маемасным становішчы, пасьведчаныя ў сельскіх мясцовасьцях сельскім саветам і сельскім камітэтам сялянскага таварыства ўзаемадапамогі, а ў гарадох і мястэчках—гарадзкім, местачковым саветам або міліцыяй (на ўсіх непрацаздольных членаў сям'і павінны быць далучаны пастановы мэдыцынскай камісіі аб меры непрацаздольнасьці);

е) пэнсійная кніжка або іншыя дакумэнты, якія сьведчаць аб тым, што асоба раней атрымоўвала пэнсію або дапамогу (калі яна атрымоўвала).

*Г. Для асоб, памяненых у арт. арт. 52, 54, 55 гэтай інструкцыі:*

а) зьвесткі аб сямейна-маемасным становішчы, пасьведчаныя ў сельскіх мясцовасьцях сельскім саветам і сельскім камітэтам сялянскага таварыства ўзаемадапамогі, а ў гарадох і мястэчка—хгарадзкім, местачковым саветам або міліцыяй (на ўсіх непрацаздольных членаў сям'і павінны быць далучаны пастановы мэдыцынскай камісіі аб меры непрацаздольнасьці).

62. Калі асобы, памянёныя ў арт. арт. 10 і 24 гэтай інструкцыі памруць або будзе ўстаноўлена іх невядомая адсутнасьць, то непрацаздольныя члены іх сям'і з ліку атрымоўваўшых пэнсію пры хадайніцтве аб назначэньні ім пэнсіі далучаюць толькі дакумэнты, паказаныя ў п. 4, разьдзелу „В“ арт. 61 гэтае інструкцыі, калі іншыя патрэбныя дакумэнты ёсьць у справе памёршага або невядома дзе прапаўшага.

63. Заявы з дакумэнтамі пры прыняцьці зараз-жа правяраюцца і калі якіх-небудзь дакумэнтаў ня будзе хапаць, аб гэтым паведамляецца прасіцель з папярэджаньнем, што калі на працягу 3-х месяцаў яны ня будуць пададзены, то справа будзе спынена.

64. Заявы аб назначэньні забесьпячэньня атрыманыя ад асоб, якія жывуць у сельскіх мясцовасьцях, з усімі патрэбнымі, паводле арт. 61 гэтае інструкцыі, дакумэнтамі раённыя выканаўчыя камітэты перасылаюць інспэктару па сацыяльным забесьпячэньні пры акруговым выканаўчым камітэце.

*Увага.* Матар'ялы аб назначэньні дапамогі сем'ям вайскоўцаў разглядаюцца камісіяю пры раённым выканаўчым камітэце (арт. 4 гэтае інструкцыі), якія пасьля гэтага астаюцца ў раённым выканаўчым камітэце, дзе заводзіцца асабовая справа.

65. Акруговыя інспэктары сацыяльнага забесьпячэньня, атрымаўшы матар'ялы, памянёныя ў арт. 64, або дакумэнты, пададзеныя ім асобамі, маючымі права на сацыяльнае забесьпячэньне, з ліку тых, якія жывуць у акруговых гарадох, правяраюць іх і, калі яны дакумэнтальна аформлены, заводзяць асабовую справу, якую ўносяць на разгляд і вырашэньне акруговай міжведамственай камісіі па назначэньні пэнсій і дапамог.

66. Акруговая міжведамственая камісія па назначэньні пэнсій і дапамог, грунтуючыся на дакумэнтах і матар'ялах, якія ёсьць ў справе і кіруючыся „Палажэньнем аб дзяржаўным забесьпячэньні“ (З. З. БССР—1925 г. № 45, арт. 362), пастановаю ЦВК і СНК СССР „Аб забесьпячэньні сем'яў грамадзян, якія заклікаты на сапраўдную вайсковую службу ў кадравым складзе частак Рабоча-Сялянскае Чырвонае Арміі (З. З. СССР—1927 г. № 3, арт. 30) і гэтаю інструкцыяю, выносіць на сваім пасяджэньні пастанову, у якой падрабязна павінны быць адзначаны абставіны справы і паводле чаго (якіх артыкулаў законаў, інструкцыі) назначаецца пэнсія, дапамога, або адмаўляецца ў назначэньні іх. На ўсіх пасяджэньнях камісіі вядуцца пратаколы або журнальныя пастановы, якія падпісваюцца членамі і сэкратаром камісіі.

67. З пратаколаў камісіі або з журнальных пастаноў робяцца выпіскі, адзін экзэмпляр якой далучаецца да справы асобы, якая хадайнічала аб назначэньні пэнсіі або дапамогі, а другі пасылаецца гэтай асобе з тлумачэньнем, што пастанова можа быць абскарджана на працягу двух тыдняў ад дня вынясеньня пастановы ў міжведамственую камісію па назначэньні пэнсій і дапамог пры Народным Камісарыяце Сацыяльнага Забесьпячэньня, абавязкова праз камісію, якая вынесла пастанову.

Неабскарджаная ў вызначаны тэрмін пастанова ўваходзіць у законную сілу і больш абскарджвацца ня можа.

68. Калі пастанова будзе абскарджана, то скарга з асабовай справаю на працягу трох дзён пасьля падачы скаргі падаецца для разгляду ў міжведамственую камісію па назначэньні пэнсій і дапамог пры Народным Камісарыяце Сацыяльнага Забесьпячэньня.

69. Правілы, зьмешчаныя ў арт. арт. 64—68, цалкам пашыраюцца на Камісію пры раённым выканаўчым камітэце (арт. 4) з тэю толькі розьніцаю, што скарга перш пасылаецца для пацьвярджэньня ў акруговую міжведамственую камісію па назначэньні пэнсій і дапамог, якой можа быць нездаволенаю асобаю абскарджана паводле арт. 67 гэтай інструкцыі, у зьвязку з гэтым, справа асобы, падаўшай скаргу на працягу двух тыдняў ад дня вынясеньня пастановы акруговаю міжведамственаю камісіяю па назначэньні пэнсій і дапамог павінна знаходзіцца ў акруговага інспэктара па сацыяльным забесьпячэньні.

70. Справа асобы, якой было ўжо адмоўлена ў назначэньні сацыяльнага забесьпячэньня, можа разглядацца ізноў незалежна ад таго, які час прайшоў ад дня папярэдняе пастановы, калі з пададзеных ёю дакумэнтаў будзе відаць, што ў маемасна-сямейным становішчы адбыліся такія зьмены, што забесьпячэньне можа быць назначана або калі пададзеныя вайсковыя (або замяняючыя іх) дакумэнты могуць быць падставаю для ўстанаўленьня факту інваліднасьці, сьмерці і г. д.

У такім выпадку, забесьпячэньне назначаецца ад дня апошняй пастановы камісіі ў залежнасьці ад асыгнаваньня сродкаў па каштарысу.

71. Як правіла, па ініцыятыве адпаведных камісій (арт. арт. 4 і 65), справы павінны пераглядацца ня больш, як адзін раз у год і апроч таго, абавязкова, калі пры назначэньні пэнсіі або дапамогі камісіяю была вынесена пастанова аб пераглядзе справы, праз некаторы час.

72. Заявы, па якіх камісіямі (арт. арт. 65, 69, 70 і 71 гэтай інструкцыі) было адмоўлена ў назначэньні забесьпячэньня, калі гэтыя адмаўленьні ня былі абскарджаны на працягу двух тыдняў, з усімі дакумэнтамі і матар'яламі зварочваюцца асобе, падаўшай заяву.

Матар'ялы-ж камісіі (арт. 73) зварочваюцца асобе, падаўшай заяву, у тым выпадку, калі ёй у назначэньні было адмоўлена, адначасна з паведамленьнем аб гэтым (арт. 76, п. „а“).

73. Міжведамственая камісія па назначэньні пэнсій і дапамог пры Народным Камісарыяце Сацыяльнага Забесьпячэньня на адным з бліжэйшых пасяджэньняў правярае ўсю справу аб заяўшчыку, або пацьвярджае, або зьмяняе, або касуе пастанову акруговай межведамственай камісіі па назначэньні пэнсій і дапамог, варочаючы ёй справу назад для выкананьня.

Пастановы міжведамственай камісіі па назначэньні пэнсій і дапамог пры Народным Камісарыяце Сацыяльнага Забесьпячэньня зьяўляецца канчатковай і абскарджвацца ня можа апроч выпадку, паказанага ў разьдзеле „В“ артыкулу 76.

74. На ўсіх пасяджэньнях камісіі вядуцца пратакол або журнальная пастанова, якія падпісваюцца членамі і сэкратаром камісіі.

75. Выпіска з пратаколу або з журнальнае пастановы камісіі далучаецца да справы і разам з справаю, не пазьней як на працягу двух тыдняў, пасылаецца адпаведным інспэктаром сацыяльнага забесьпячэньня пры акруговым выканаўчым камітэце.

76. Атрымаўшы справу, акруговы інспэктар сацыяльнага забесьпячэньня павінен у самы кароткі час:

а) паведаміць асобу, падаўшую скаргу, аб выніках справы;

б) тэхнічна аформіць выдачу пэнсіі або дапамогі па справе пастановай акруговай камісіі, па якой пацьверджана або зьменена, з тэрміну, вызначанага міжведамственай камісіі пры Народным Камісарыяце Сацыяльнага Забесьпячэньня;

в) па справе, пастанова акруговай камісіі па якой скасавана, падабраць патрэбныя матар'ялы, дакумэнты і г. д. і зноў падаць яе на разгляд і вырашэньне акруговай міжведамственай камісіі.

Пастанова акруговай камісіі ў такім выпадку абскарджваецца нездаволенаю асобаю паводле арт. арт. 67 і 69 гэтай інструкцыі.

77. Хадайніцтвы ў Народны Камісарыят Сацыяльнага Забесьпячэньня аб назначэньні пэрсанальнай пэнсіі падаюцца або асобамі, памянёнымі ў арт. арт. 38 і 45 гэтай інструкцыі, або зацікаўленымі прафэсіянальнымі, грамадзкімі арганізацыямі і ўстановамі, незалежна ад просьбы асоб, якім гэтыя пэнсіі і дапамогі назначаюцца.

78. Да заявы павінны быць далучаны наступныя матар'ялы і дакумэнты:

а) уласны жыцьцяпіс, у якім падрабязна павінны быць адзначаны галоўныя моманты працы;

б) службовыя сьпісы;

в) зьвесткі аб удзеле ў партызанскіх чырвоных атрадах;

г) дакумэнты аб партыйнай або прафэсіянальнай працы;

д) іншыя дакумэнты, якія сьведчаць аб выдатных заслугах асобы;

е) зьвесткі аб меры непрацаздольнасьці;

ж) зьвесткі аб сямейна-маемасным становішчы (на ўсіх непрацаздольных членаў сям'і павінны быць далучаны дакумэнты аб меры непрацаздольнасьці).

79. Міжведамственая камісія па назначэньні пэнсій і дапамог на адным з бліжэйшых пасяджэньняў павінна разглядзець заяву і, кіруючыся „Палажэньнем аб дзяржаўнай забясьпецы“ (З. З. БССР —1925 г. № 45, арт. 362) і разьдзелам V гэтай інструкцыі вынесьці пастанову. Гэтая пастанова лічыцца канчатковаю і абскарджвацца ня можа.

80. На ўсіх пасяджэньнях камісіі вядзецца пратакол, які падпісваецца членамі камісіі і сэкратаром.

81. Справы пэрсанальных пэнсіянэраў могуць пераглядацца як па ініцыятыве самой камісіі, у парадку перагляду спраў, так і пасьля атрыманьня ёю дадатковых матар'ялаў, дакумэнтаў аб дзейнасьці або зьменах у маемасна-сямейным становішчы пэнсіянэра.

82. На асоб, якім назначана пэрсанальная пэнсія, заводзяцца асабовыя справы, якія захоўваюцца ў Народным Камісарыяце Сацыяльнага Забесьпячэньня.

На Народны Камісарыят Сацыяльнага Забесьпячэньня ўскладаецца таксама і тэхнічнае ажыцьцяўленьне вынесенай пастановы.

83. Заявы з усімі матар'яламі і з выпіскаю пастановы, па якіх было адмоўлена ў назначэньні пэнсіі або дапамогі, зварочваюцца заяўніку.

84. Усе справаводзтва па назначэньні забясьпячэньня вядзецца па формах, апрацаваных Народным Камісарыятам Сацыяльнага Забесьпячэньня.

85. З часу выданьня гэтай інструкцыі касуюцца ўсе раней выданыя інструкцыі, абежнікі і загады па пытаньні аб назначэньні забесьпячэньня.

Нам. Народнага Камісара Сацыяльнага
Забесьпячэньня БССР **Л. Адзінцоў.**

Інспэктар па Пэнсійных Справах **Т. Сымончык.**

Сэкратар Народнага Камісарыяту Сацыяльнага
Забесьпячэньня БССР **А. Каржуеў.**

20 красавіка 1927 г.
№ 2.

## 11. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

АБ УСТАНАЎЛЕНЬНІ ДЛЯ МЛЫНОЎ ГРАНІЧНЫХ НОРМ ЗОЛЬНАСЬЦІ І ГРУБАСЬЦІ МЛІВА ДЛЯ ЖЫТНЯЙ І ПШАНІЧНАЙ МУКІ.

Паводле п. п. „в“ і „м“ арт. 4 Часовага палажэньня аб Народным Камісарыяце Гандлю БССР і загаду Н. К. Гандлю СССР за 9-га мая 1927 г. № 6460/294, для дапаўненьня п. 4 свае пастановы за 5 сакавіка г. г. № 11—(апубл. у „Бел. Камэрц. Бюлетэні“ за 8 сакавіка г. г. № 19(226), Н. К. Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць для млыноў БССР наступныя граничныя нормы зольнасьці і грубасьці мліва для жытняй і пшанічнай мукі:

| Назва гатунку | Проц. выхаду | Граніčны проц. зольнасьці | №№ шоўкавага сіта, праз якое праходзіць без астатку | У в а г а |
|---|---|---|---|---|
| Жытняя сеяная . . | 0—65,0 | 1,10 | № 5 | Нумары шоўкавых сіт адпавядаюць наступнай колькасьці нітак на 1 сант.: |
| Пшанічн. гатунак 1. | 0—60,0 | 0,65 | № 5 | № 5—26 нітак |
| Таксама гатунак 2. | 60—75 | 2,10 | № 6 | № 6—29 „ |

2. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці, прадугледжанай паказанаю вышэй пастановаю Н. К. Гандлю за 5 сакавіка 1927 г. № 11.

Народны Камісар Гандлю БССР **Яз. Адамайціс.**

Сэкратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **Н. Строганаў.**

19 мая 1927 г.
№ 35.

---

## 12. Пытаньні і адказы.

Запытаньне Смалявіцкага раённага выканаўчага камітэту за 26 красавіка 1927 г. № 11556:

ПЫТАНЬНЕ **76**. Ці можа лясьніцтва пратэндаваць на быўшы службовы надзел лясьніка, калі надзел гэты знаходзіцца ў складзе вучастку, пералічанага ў лес мясцовага значэньня, а пасада лясьніка ліквідавана? Грамядзяне ў 1925 г. карысталіся гэтым надзелам, а ў 1926 г. складзены земляўпарадчы праэкт яго разьмеркаваньня ў працоўнае карыстаньне.

АДКАЗ. Паводле артыкулаў 4, 11, 57—59 Ляснога Кодэксу лясы мясцовага значэньня ўваходзяць у склад дзяржаўнага ляснога фонду і зьяўляюцца на падставе арт. 138 Зям. Код. землямі спэцыяльнага прызначэньня. З гэтае прычыны вольны службовы лясны надзел, які знаходзіцца ў складзе вучастку, пералічанага ў лес мясцовага зна-

чэньня, можа быць перададзены зямельнымі органамі ў працоўнае карыстаньне толькі ў тым выпадку, калі лясным ведамствам гэты надзел будзе выключаны з ляснога і пералічаны ў запасны фонд.

### Запытаньне Бабруйскага акруговага зямельнага аддзелу за 16 мая 1927 г. № 5643:

ПЫТАНЬНЕ 77. Ці можна ў зьвязку з абежнікам Народнага Камісарыяту Земляробства за 5 сакавіка 1927 г. № 16 пакінуць у сіле адабраньне лішкаў зямлі ад тых гаспадарак з цераспалосным карыстаньнем, якія былі ўжо абрэзаны на падставе пастановы раённай зямельнай камісіі, але праэкты абрэзкі былі скасованы потым вышэйшымі інстанцыямі зямельнага суду?

АДКАЗ. Калі лішкі зямлі звыш максімальнай нормы былі адабраны ад гаспадаркі з цераспалосным карыстаньнем паводле ўвагі да арт. 204 Зям. Код., то пасьля скасаваньня вышэйшымі інстанцыямі зямельнага суду праэкту абрэзкі павінен быў быць дапушчаны паварот выкананьня, г. зн. зварот адабранай зямлі ранейшаму карыстальніку, бо ў такім выпадку пастанова зямельнай камісіі аб абрэзцы гаспадаркі ня існуе.

### Запытаньне каморніка па землянадзяленьні ў Барысаўскай акрузе т. Красінскага (бяз даты):

ПЫТАНЬНЕ 78. Ці трэба абавязкова браць падпіску ад усіх паўнапраўных членаў двара аб тым, што яны адмаўляюцца ад свае надзельнае зямлі, з якой высяляюцца на запасны фонд, дзе атрымоўваюць поўную норму зямлі?

АДКАЗ. Падпіска ад усіх паўнапраўных членаў двара аб іх адмоўленьні ад зямлі бярэцца па сэнсу арт. 18 Зям. Кодэксу толькі тады, калі двор, спыняючы вядзеньне сельскае гаспадаркі, адмаўляецца ад права працоўнага землякарыстаньня. Калі-ж двор у парадку земляўпарадкаваньня толькі перамяшчаецца з аднаго месца на другое, то ён паводле арт. 114 Зям. Код., можа захаваць за сабою права карыстацца толькі сваім ранейшым сядзібным вучасткам ня больш, як на 3 гады, але ня іншымі ўгодзьдзямі. З гэтае прычыны ні ад паасобных членаў двара, ні ад гаспадара ня трэба браць падпіску аб адмаўленьні двара ад зямлі, калі двор у парадку земляўпарадкаваньня атрымоўвае замест гэтае зямлі іншы вучастак.

### Запытаньне Веткаўскай раённай зямельнай камісіі за 13 мая 1927 г. № 37/513:

ПЫТАНЬНЕ 79. Ці можа камітэт таварыства ўзаемадапамогі, сельскі савет або зямельная сэкцыя сельскага савету без пастановы зямельнай грамады паднімаць іскі аб прызнаньні адмерласьці працоўнае земляробчае гаспадаркі або аб адабраньні зямлі ад землякарыстальніка на падставах, паказаных у арт. арт. 17 і 58 Зям. Код?

АДКАЗ. Для падачы камітэтам таварыства ўзаемадапамогі іску аб маемасьці адмерлага двара, калі хто-небудзь заяўляе свае права на гэтую маемасьць, а таксама для падачы сельскім саветам іску аб адабраньні зямлі ад двара па прычыне парушэньня ім умоў працоўнага землякарыстаньня—пастановы зямельнай грамады ня трэба, бо камітэт таварыства ўзаемадапамогі іск аб адмерлай маемасьці падае для сваіх-жа ўласных інтарэсаў, а сельскі савет—на падставе ўскладзе-

нага арт. 7 Зям. Код. на зямельныя органы абавязку па нагляду за правільным скарыстаньнем зямлі працоўнаю земляробчаю гаспадаркаю.

ПЫТАНЬНЕ **80**. Ці дазваляецца ў зямельных грамадах „чорны перадзел" зямлі без земляўпарадкаваньня, прадугледжаны арт. арт. 116 і 122 Зям. Код. РСФСР, бо ў Зямельным Кодэксе БССР аб гэтым нічога ня сказана?

АДКАЗ. Зямельны Кодэкс БССР не прызнае абшчыннага землякрыстаньня, а з тае прычыны, што агульныя і паасобныя перадзелы зямлі дазваляюцца толькі ў абшчынах, то ў БССР гэтыя перадзелы ня могуць рабіцца.

### Запытаньне Чырвона-Слабодзкай раённай зямельнай камісіі за 20 мая 1927 г. № 2582:

ПЫТАНЬНЕ 81. Ці можна пры земляўпарадкаваньні даваць сядзібныя вучасткі вышаўшых на пасёлак двароў ня тым землякарыстальнікам, якія атрымоўваюць палявую зямлю вышаўшых двароў, а іншым і ў якіх выпадках? Якім спосабам павінна афармляцца аддзяленьне сядзібы двара ад яго палявой зямлі пры разьмеркаваньні гэтых угодзьдзяў паміж рознымі землякарыстальнікамі?

АДКАЗ. Арт. 114 Зям. Код. не патрабуе, каб сядзіба вышаўшага на пасёлак двара абавязкова давалася таму землякарыстальніку, які атрымоўвае іншыя сельска-гаспадарныя ўгодзьдзі вышаўшага двара. Гаспадарча мэтазгодным будзе скарыстаньне вольнай сядзібы для павялічэньня маламерных сядзіб з захаваньнем будаўнічых правіл. Парадак найлепшага разьмеркаваньня ўгодзьдзяў вышаўшага на пасёлак двара вызначаецца ў праэкце ўнутрыпасельнага земляўпарадкаваньня.

### Узьнікшыя ў практыцы Асобае Калегіі Вышэйшага Кантролю пытаньні:

ПЫТАНЬНЕ **82**. Як цяпер, у сувязі з выданьнем Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам і Саветам Народных Камісараў БССР пастановы за 14 мая 1927 г. аб зьмене арт. 79 Зям. Код. трэба разьмяжаваць падсуднасьць іскаў аб маемасьці сялянскага двара паміж зямельнымі камісіямі і народным судом?

АДКАЗ. На падставе пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 14 мая 1927 г. аб зьмене арт. 79 Зям. Код. іскі ня толькі аб зямлі, але і аб усякай іншай маемасьці сялянскага двара, хацяб яны і ня былі зьвязаны з хадайніцтвам аб прысуджэньні зямлі, падсудны толькі зямельным камісіям, калі старанамі па справе зьяўляюцца члены аднаго і таго-ж двара. Такім чынам усе без выключэньня іскі аб падзелах гаспадаркі і аб сплатах членам двара падсудны зямельным камісіям. Іскі-ж аб маемасьці двара, якія падаюцца чужымі для яго асобамі, разглядаюцца народным судом, напрыклад, у выпадку спагнаньня пазычаных грошай, прысуджэньня алімэнтаў не належачай да двара асобе і г. д.

ПЫТАНЬНЕ 83. Ці трэба падаваць іск і каму аб залічэньні ў запасны фонд зямлі, кінутай землякарыстальнікам, паехаўшым невядома куды?

АДКАЗ. Калі двор пакіне вучастак без гаспадарчага скарыстаньня і не падасьць заявы зямельнаму органу аб адмаўленьні ад гэтага вучастку, то сельскі савет або зямельны стол раённага выканаўчага камітэту для пазбаўленьня землякарыстальніка яго зямлі і залічэньня яе ў запасны фонд павінны падаць іск аб гэтым ў зямельную камісію. Калі няма зьвестак аб месцы жыцьця землякарыстальніка або членаў яго сям'і, то павестка аб выкліканьні да разгляду справы ўручаецца яму цераз сельскі савет дапасавальна да арт. 52 інструкцыі аб парадку разгляду спраў зямельнымі камісіямі.

ПЫТАНЬНЕ 84. Ці можна лічыць безьзямельнымі тых членаў двара, якім зямельная камісія выдзеліла частку агульнае маемасьці без зямлі і ці надзяляць іх зямлёю са складу запаснага фонду?

АДКАЗ. Пастановаю Савету Народных Камісараў 10 красавіка 1925 г. часова прыпынены разьдзел тае зямлі, якая знаходзіцца ў карыстаньні працоўных земляробчых гаспадарак. Іскі-ж аб разьдзеле іншае, апроч зямлі, маемасьці агульнага карыстаньня тых гаспадарак, якія па зямельным забесьпячэньні не належаць да непадзельных, могуць разглядацца зямельнымі камісіямі.

Калі немагчыма сумесна весьці гаспадарку, то члены двара, атрымаўшы на падставе рашэньня зямельнае камісіі частку агульнае маемасьці, могуць адмовіцца ад зямлі і выйсьці са складу двара. Толькі ў такім выпадку яны належаць да ліку безьзямельных. Зямлёю яны надзяляюцца ў парадку земляўпарадкаваньня ў выпадку, калі ёсьць запасны фонд.

ПЫТАНЬНЕ 85. Калі член сялянскага двара знаходзіцца на выбарнай грамадзкай службе, то ці можа лічыцца ў складзе двара сям'я гэтага служачага, якая жыве разам з ім?

АДКАЗ. У арт. 16. Зям. Код. пералічаны выпадкі, калі адсутнасьць члена двара з гаспадаркі не пазбаўляе яго права на зямлю ў складзе гэтага двара. У адных выпадках члены, якія вышлі з гаспадаркі, захоўваюць права на зямлю, колькі-б часу яны не адсутнічалі (вайсковая служба, выбарная савецкая і грамадзкая служба, вучэньне ў школе і знаходжаньне ў лячэбніцы), у другіх—толькі на пэўны тэрмін, а іменна, двохсевазваротны пры адходзе на працоўныя заробкі і пяцігадовы—пры ўстанаўленьні невядомай адсутнасьці. Сям'я адсутнага члена двара, якая жыве разам з ім, карыстаецца такім самым правам на зямлю ў складзе двара, як і адсутны. З гэтай прычыны сям'я яго павінна лічыцца ў складзе сялянскага двара ўвесь той час, на працягу якога адсутны член двара захоўвае ў ім права на зямлю.

Адказы на пытаньні 76—85 даюцца Асобай Калегіяй Вышэйшага Кантролю пры НКЗ БССР (журнал распарадчага паседжаньня АКВК за 31 мая 1927 г. № 30).

## 13. Новая падсуднасьць іскаў аб маемасьці сялянскага двара і праўнае становішча гэтае маемасьці.

Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 14 мая 1927 г. аб зьмене артыкулу 79 Зям. Код., апублікаваная ў № 124 „Савецкай Беларусі" за 4/VI—1927 г., істотна адбілася на вызначанай Зямельным Кодэксам падсуднасьці іскаў, якія падаюцца членамі сялянскага двара аб яго маемасьці.

Паводле ранейшай рэдакцыі арт. 79 Зям. Код. іскі аб маемасьці без зямлі, якія падаюцца на сялянскі двор, напрыклад, аб будынках, жывым і мёртвым сельска-гаспадарчым інвентары, ураджаі і інш., былі падсудны народнаму суду, іскі-ж аб зямлі і адначасна аб іншай маемасьці сялянскага двара разглядаліся зямельнымі камісіямі.

Такая двоістая падсуднасьць іскаў аб аднэй і тэй-жа маемасьці выклікала вялікую нязручнасьць. Перш за ўсё селяніну ў гэтай падсуднасьці трудна было разабрацца. Часта бывала, што член двара, якому зямельная камісія адмаўляла ў іску аб падзеле ўсяе гаспадаркі паднімаў ужо ў народным судзе іск аб падзеле будынкаў, інвэнтару і ўраджаю тае-ж гаспадаркі, але без зямлі. Такім чынам, з прычыны двоістай падсуднасьці іск аб падзеле аднэй і тэй-жа маемасьці разглядаўся зямельным і агульным судом.

Апроч таго, з прычыны падсуднасьці народнаму суду іскаў аб маемасьці сялянскага двара, зямельныя органы і існуючыя пры іх зямельныя камісіі пазбаўлены былі магчымасьці належным чынам ажыцьцяўляць ускладзены на іх артыкулам 7 Зямельнага Кодексу абавязак рэгуляваць землякарыстаньне і сямейна-маемасныя падзелы двароў. Між тым, агульная маемасьць апошніх, таксама як і зямля, зьяўляецца як-бы прыладаю вытворчасьці ў сельскай гаспадарцы і патрэбна для яе вядзеньня.

Калі-ж з двара нельга зрабіць двох або больш жыцьцёвых гаспадарак, то зямельная камісія, на падставе арт. 72 Зям. Код. не павінна дазваляць падзелу гаспадаркі, бо апошняя мае так мала зямлі, інвэнтару і будынкаў, што пры аддзяленьні часткі гэтае маемасьці немагчыма было-б самастойнае існаваньне гаспадаркі. Зямельная камісія ў такім выпадку адмаўляе ў іску аб падзеле. Калі-ж пастанова яе набывала законную сілу, то існец зварочваўся да народнага суду з заявай аб прысуджэньні яму ўжо часткі будынкаў і іншае маемасьці двара. Суд ня меў падстаў ня прымаць такой справы, бо яна была яму падсудна паводле арт. 79 Зям. Код. Лічачы, што маемасьць двара складае агульную ўласнасьць усіх яго членаў, незалежна ад роду і веку, народны суд задавальняў такія іскі і гэтым паралізаваў імкненьне зямельных камісій не дазваляць падзелаў дробных сялянскіх гаспадарак і абезьзямельваў існца, які з прысуджанай яму часткай маемасьці павінен быў выйсьці са складу двара.

Артыкул 79 Зям. Код., які ўскладаў на народны суд абавязак вырашаць іскі аб маемасьці сялянскага двара без зямлі, не ўзгад-

няўся, апроч таго, і з арт. 84, на падставе якога іскі аб сплатах, што падаюцца членамі непадзельнае гаспадаркі пры выхадзе з яе складу, падсудны зямельным камісіям.

Цяпер усе гэтыя недахопы і супярэчнасьці скасаваны паказанаю вышэй пастановай Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР, якая дала наступную рэдакцыю 79 артыкулу Зямельнага Кодэксу.

„Іскі членаў двара аб падзеле супольнае маемасьці двара (будынкаў, інвентару, ураджаю і інш.), а таксама аб падзеле зямлі падсудны зямельным камісіям“.

На падставе гэтай рэдакцыі артыкулу 79 іскі ня толькі аб зямлі, але і аб усякай іншай маемасьці сялянскага двара, хоць-бы яны і ня былі зьвязаны з хадайніцтвам аб прысуджэньні зямлі, падсудны толькі зямельным камісіям, калі старанамі ў справе зьяўляюцца члены аднаго і таго-ж двара. Такім чынам, усе без выключэньня іскі аб падзелах гаспадаркі, аб сплатах членам двара падсудны цяпер зямельным камісіям (тлумачэньне Асобае Калегіі Вышэйшага Кантролю па журналу распарадчага пасяджэньня яе за 31 мая 1927 г., № 30). Іскі-ж аб маемасьці двара, якія падаюцца чужымі для яго асобамі, разглядаюцца, як і да гэтага часу, народным судом, напрыклад, у выпадку спагнаньня пазычаных грошай, прысуджэньня алімэнтаў асобе, не належачай да складу двара і г. д.

Значыцца, падсуднасьць спраў зямельным камісіям устанаўляецца прадметам спрэчкі і ўдзельнікамі працэсу. Калі спрэчка ідзе аб зямлі працоўнага карыстаньня, што справа заўсёды падсудна раённай зямельнай камісіі, хто-б ня быў стараною ў справе. Тая-ж камісія разглядае ў такім выпадку сумесна прад'яўлены іск аб іншай маемасьці сялянскага двара, а таксама аб стратах.

Іскі аб аднэй маемасьці без зямлі (будынках, інвэнтары, ураджаі, насеньні, расьлінах і інш.) пасудны зямельным камісіям толькі ў тым выпадку, калі судзяцца па справе члены аднаго двара; калі-ж іск аб маемасьці падаецца чужою для двара асобаю, або дваром да асобы, якая не належыць да яго складу, справа падсудна народнаму суду.

Пры гэтым трэба мець на ўвазе тое, што, як відаць з параўнаньня артыкулаў 65 і 75 Зям. Код., маемасьць сялянскага двара складаецца з двух частак, якія знаходзяцца ў розным праўным становішчы, а іменна: з маемасьці супольнага карыстаньня ўсяго двара і маемасьці асабістага карыстаньня яго членаў.

Усякая без выключэньня маемасьць, якая патрэбна для вядзеньня сельскае гаспадаркі, зьяўляецца маемасьцю супольнага карыстаньня незалежна ад таго, ці набыта яна на супольныя сродкі двара, ці на асабістыя сродкі яго членаў. У склад супольнае маемасьці ўваходзяць: зямля, будынкі, жывы і мёртвы сельска-гаспадарчы інвэнтар, ураджай, угнаеньне і прыбыткі гаспадаркі.

Да маемасьці асабістага карыстаньня членаў двара належыць усякае адзеньне, а таксама маемасьць, якая ня служыць для вядзеньня гаспадаркі і набыта членам двара на зарobленыя ім самім на старане сродкі, напрыклад: вэлёсыпэд, стрэльба, музычны струмант і інш. Маемасьць гэтая належыць члену двара на праве ўласнасьці.

Права на маемасьць супольнага карыстаньня належыць усяму двару ў цэлым, усяму сельска-гаспадарчаму калектыву. Кожны ў паасобку член двара ня мае самастойнага права не карыстаньне пэўнаю часткаю супольнае маемасьці. Кожны член двара мае права на маемасьць яго толькі да таго часу, пакуль ён знаходзіцца ў складзе двара. Пры выхадзе са складу двара ён адразу траціць усе правы на супольную маемасьць, а пры пераходзе ў новы двор—адразу-ж набывае ў ім усе гэтыя правы. З гэтае прычыны Зямельны Кодэкс дазваляе падзелы гаспадарак, як выключэньне, толькі ў тых выпадках, калі з аднае гаспадаркі можна зрабіць дзьве або некалькі жыцьцёвых гаспадарак, а пры выхадзе членаў са складу непадзельнага двара дазваляюцца, наогул, толькі сплаты.

У гэтым і выяўляецца вялікая прынцыповая розьніца ў праўным становішчы маемасьці сялянскага двара цяпер у сацыялістычнай дзяржаве параўнальна з капіталістычным грамадзянствам.

У дарэвалюцыйнай Расіі, пакуль ня быў выданы сталыпінскі закон 9 лістапада 1906 г., права на зямлю і на іншую маемасьць, двара належала яго членам. Маемасьць гэтая складала іх агульную ўласнасьць, прычым жанчыны мелі менш правоў на супольную маемасьць, чым мужчыны. Удава па закону мела права на сёмую частку нярухомай маемасьці, а сястра пры братох толькі на чатырнаццатую. Пры выхадзе са складу двара член яго меў права на атрыманьне свае часткі зямлі і іншае маемасьці або па згодзе з іншымі членамі двара або праз суд. Нельга было толькі падаваць іску да бацькоў, бо закон сьцярог бацькаўскую ўладу. Часта бывала, што старыя бацькі па некалькі раз пераходзілі ад аднаго з сваіх дзяцей да другога разам з сваею часткаю зямлі і маемасьці. Такое становішча перашкаджала правільнаму вядзеньню гаспадаркі і павялічвала церасьпалосіцу і далёказямельле, асабліва, калі бацькі пераходзілі ў двор вышаўшай замуж дачкі.

Закон 9 лістапада 1906 г. зрабіў уласьнікам зямлі і іншае маемасьці двара аднаго толькі гаспадара. Усе іншыя члены двара ніякіх правоў на яго маемасьць ня мелі, пакуль жыў гаспадар. Пасьля-ж яго сьмерці амаль заўсёды спадкаемцы дзялілі паміж сабою гаспадарку, бо кожны з іх хацеў забраць у свае рукі належачую яму частку маемасьці і зрабіцца ў сваю чаргу гаспадаром. Усё гэта выклікае драбленьне сялянскіх гаспадарак і гандаль зямлёю.

Савецкае законадаўства зусім інакш азначае праўнае становішча зямлі і іншае маемасьці сялянскага двара. Паводле Зямельнага Кодэксу права на карыстаньне зямлёю і права ўласнасьці на іншую супольную маемасьць двара належыць ня членам яго, а двару ў цэлым, як калектыву. Тут ня толькі выяўляецца сацыялістычны прынцып, але і ўзаконьваецца звычаёвае сялянскае права.

Па вядомаму звычаю прымак і здольнік з моманту ўваходу ў новы двор набываюць у ім усе правы на супольную маемасьць і трацяць іх у сваім бацькаўскім двары, з якога пры выхадзе яны бяруць сплату. Прымаком называецца мужчына, які ўваходзіць у склад двара на падставе шлюбу, а здольнік прымаецца ў склад двара бяз шлюбу, напрыклад, калі ў гаспадарцы няма сваіх працаздольных членаў і яна прымае часам родзіча ў якасьці здольніка.

**А. Вішнеўскі.**

## 14. Патрэбна інстанцыйнасьць.

Бюрократызм у нашым апараце бывае з прычыны адсутнасьці пэўнасьці і выразнасьці ў тых пытаньнях, якія ўскладзены на паасобныя ведамствы. У большасьці гэта выяўляецца пры беспасрэдным абслугоўваньні насяленьня. У нас ёсьць больш-менш устаноўленае разьмежаваньне функцый паміж паасобнымі часткамі апарату, але няма цьвёрдай інстанцыйнасьці. Апошняя ёсьць толькі ў судовым апараце. Напрыклад, калі ты зьвернешся ў народны суд з зямельнаю справаю, то яе там ня прымуць, а накіруюць цябе ў зямельную камісію; далей, на вынесены прысуд народнага суду Найвышэйшы Суд касацыі ніколі ня прыме, пакуль гэта справа не перагледжана акруговым судом і г. д. Такі парадак вельмі ясны і зручны для насяленьня. Пры такой правільнай арганізацыйнай форме пабудовы суду трэба толькі, каб апошні хутка і добра працаваў і ў гэтай галіне ніколі бюрократызму ня будзе.

Цяпер параўнаем яго з пабудоваю грамадзянскага апарату. Нажаль, тут яшчэ ёсьць шмат чыста арганізацыйных хібаў, ня зьнішчыўшы якіх цяжка будзе канчаткова перамагчы элемэнты бюрократызму. Калі ня цалкам, то хаця-б з знадворна-арганізацыйнага боку трэба перабудаваць увесь грамадзянскі апарат па прынцыпу судовых органаў.

Аб патрэбе такога перабудаваньня гавораць наступныя прыклады:

1) Селянін падае ў Акруговы Выканаўчы Камітэт заяву аб зьняцьці з яго часткі сельска-гаспадарчага падатку, а Акруговы Выканаўчы Камітэт, напэўна, прыме заяву (як-жа ня прыняць, калі гр-н прыехаў за 30-40 вёрст), між тым гэтая самая заява не праходзіла ні праз сельскую, ні праз раённую падатковую камісію. Што-ж бывае ў выніку? Акруговы Выканаўчы Камітэт накіроўвае заяву ў акруговую падатковую камісію, апошняя—у раённую, а тая—у сельскую. Пасьля-ж усяго гэтага пачынаецца адваротны рух гэтай самай заявы ўверх. Праходзіць 3-4 месяцы часу. Усе канцэлярыі заняты накіроўваньнем туды і назад аднэй і тэй самай заявы, прасіцель атрымае адказ ня хутка.

2) На грамадзяніна накладзены штраф; ня гледзячы на папярэджаньне аб парадку накіраваньня скаргі, ён абавязкова „на ўсякі выпадак“ піша заяву ў Цэнтральны Выканаўчы Камітэт, гэтая самая заява адтуль ідзе ў Акруговы Выканаўчы Камітэт, апошні перасылае ў Раённы Выканаўчы Камітэт і вельмі часта дайшоўшы да канца, яна пачынае ісьці па тых-самых установах назад. Калі здарыцца, што гр-ну адмовяць у просьбе, тады ён зноў піша ў Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і тут пачынаецца паўторна тое-ж самае. Іншы-ж грамадзянін піша заяву ў Акруговы Выканаўчы Камітэт, копію Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі, копію Пракурору, копію Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту. Усе органы пачынаюць патрабаваць вытлумачэньняў, а ў выніку—валакіта і непарадак.

3) Раённыя Выканаўчыя Камітэты лічаць для сябе вельмі нізкім зварочвацца у акруговыя аддзелы, і з усякаю сваею справаю зварочваюцца беспасрэдна ў Акруговы Выканаўчы Камітэт, асабліва, калі аб такім зварочваньні запісваецца ў пратакол, дзе будзе абавязкова фігураваць „прасіць АВК“. У якіх выпадках Акруговаму Выканаў-

чаму Камітэту даводзіцца браць на сябе проста функцыю перадатачнага органу між Раённым Выканаўчым Камітэтам і акруговым аддзелам. Той самы парадак часта практыкуюць і Акруговыя Выканаўчыя Камітэты ў адносінах да цэнтральных ведамстваў і народных камісарыятаў: яны абавязкова напішуць у пратаколе „прасіць Савет Народных Камісараў“. Акруговы Выканаўчы Камітэт яшчэ не прабаваў згаварыцца з Народным Камісарыятам, а ўжо адразу зварочваецца ў Савет Народных Камісараў; Кіраўніцтву Спраў Савету Народных Камісараў, Народным Камісарыятам і самому Акруговаму Выканаўчаму Камітэту, дзякуючы гэтаму даводзіцца займацца непатрэбнаю перапіскаю, але, ня гледзячы на гэта, вырашэньне самога пытаньня натуральна адкладаецца часта на значны час; лепей было-б раней зьвярнуцца ў Народны Камісарыят і толькі, калі такое пытаньне там ня можа быць вырашана, пісаць у Савет Народных Камісараў.

4. Найгорш, калі пачынаецца раўналежнае „пісьмовая“ вырашэньне пытаньня. Напрыклад, у якім-небудзь раёне, па зданьні Раённага Выканаўчага Камітэту трэба пабудаваць мост на дарозе рэспубліканскага значэньня. Раённы Выканаўчы Камітэт піша аб гэтым беспасрэдна АМЭСЗАПУ (Аддзелу Мясцовага Транспарту Заходняе Акругі), копію Галоўнаму Кіраўніцтву Камунальнай Гаспадаркі, копію Акруговаму Камунальнаму Аддзелу, копію Акруговаму Выканаўчаму Камітэту і г. д. Камунальны Аддзел, атрымаўшы копію адносьніка, перапісвае амаль што даслоўна гэты самы адносьнік і накіроўвае яго ізноў-жа ў „АМЭСЗАП“, з копіяй таму-ж Галоўнаму Кіраўніцтву Камунальнай Гаспадаркі і Акруговаму Выканаўчаму Камітэту: а нават бываюць выпадкі, што і апошнія, паказаныя вышэй, вышэйшыя органы, пачынаюць рабіць па таму самаму прыкладу. Такіх прыкладаў можна падаць шмат, але досыць і сказанага.

У сучасны момант шмат гаворыцца аб рацыяналізацыі савецкага апарату. Я лічу, што апроч рэкамэндаваных асноўных захадаў па рацыяналізацыі, як: павялічэньне правоў нізавых органаў улады, зьняцьце з іх дробнае апекі, ажыўленьне саветаў і набліжэньне іх да мас, павялічэньне адказнасьці асобных кіраўнікоў ведамстваў і г. д., трэба таксама ўстанавіць цьвёрдую інстанцыйнасьць (па прыкладу судовых органаў). Гэта значыць, што вышэйшы орган улады ня прымае да разгляду заявы або справы, пакуль яна ня будзе разгледжана ніжэйшым органам або адпаведнымі, асобна вылучанымі камісіямі (як, напрыклад, падатковымі). Насяленьне, у яго выключна інтарэсах, павінна быць прывучана да такога парадку. Далей, ні адзін орган не павінен прымаць тых заяў, якія ня маюць да яго фактычна беспасрэднага дачыненьня. Тыя адносьнікі, якія пішуцца ў некалькіх копіях, павінны выконвацца толькі тым ведамствам, якому адрасаваны арыгінал; для іншых-жа ведамстваў атрыманыя копіі зьяўляюцца толькі інфармацыйным матар'ялам (пры гэтым маецца на ўвазе тое, што ўстановы ведаюць да каго ім трэба зварочвацца і адносьнік накіроўваюць па правільнаму адрасу); заявы, якія напісаны па некалькіх адрасох, павінны выконвацца першапачатковым органам улады, які аб зробленым паведамляе вышэйшаму па інстанцыі органу; іншыя-ж органы, атрымаўшы заяву ў копіі (не па беспасрэдным прызначэньні) не павінны ўсе зараз патрабаваць тлумачэньняў ад першапачатковых органаў, а трымаць іх у сябе, як інфармацыйны матар'ял, за выключэньнем, разумеецца, асобных непрадбачаных выпадкаў.

Раённыя выканаўчыя камітэты і акруговыя выканаўчыя камітэты павінны адкінуць сваю ганарлівасьць і прывыкнуць першыя— гаварыць беспасрэдна з акруговымі аддзеламі без непатрэбнага часта пасрэдніцтва акруговага выканаўчага камітэту, а другія—мецьбеспасрэдна справу па адпаведных галінах з Народнымі Камісарыятамі, не абцяжарваючы Савет Народных Камісараў тымі пытаньнямі, якія вельмі лёгка і хутка могуць быць вырашаны самімі Народнымі Камісарыятамі.

**С. Лібман.**

17 мая 1927 г.
г. Бабруйск, АВК.

---

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**